# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

4 кастрычніка 2019 года №40 (1275) 18+


# Пачынаецца перапіс насельніцтва. Запішыся беларусам!

Перапіс насельніцтва ў Беларусі пройдзе ад 4 да 30 кастрычніка

старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## Дырэктара з Вілейкі падазраюць у фіктыўных камандзіроўках

старонка 4

## З Днём настаўніка! Настаўніца – аб працы з дзецьмі і праверцы халадзільнікаў

старонка 18

## Як жыве ў Бельгіі ўраджэнец Вілейкі

старонка 21




ISSN 1991–7155
9 771991 715006 19040


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# Беларусы ў перапісе насельніцтва змогуць паўдзельнічаць трыма спосабамі

**Ад 4 да 30 кастрычніка ў Беларусі пройдзе перапіс насельніцтва пад лозунгам «Погляд на цяперашняе – крок у будучыню». Даць інфармацыю пра сябе і членаў сям'і можна будзе трыма спосабамі.**




Перапіс праводзіцца раз на дзесяць гадоў. Асаблівасць цяперашняга – магчымасць самастойна і ў зручны час запоўніць апытальныя лісты праз інтэрнэт. Таксама перапісацца можна будзе на стацыянарных участках. Яшчэ адзін спосаб – у сябе дома – у ходзе вуснага апытання перапісчыка.

**Першыя два спосабы будуць даступныя ўжо ад чацвертага кастрычніка. Перапіс праз інтэрнэт будзе доўжыцца да 18 кастрычніка – гэта самы хуткі і зручны спосаб, адзначаюць у Белстаце.**

Прычым не трэба нікому агучваць інфармацыю пра сябе, спяшацца пры запаўненні апытальніка з дапамогай адмысловай праграмы. Гэта можна зрабіць нават на адпачынку па-за Беларуссю.

Анкета складзеная так, што інфармацыя даецца пра ўсіх членаў дамашняй гаспадаркі (сям'і), якія жывуць сумесна. Персанальныя дадзеныя аб непаўналетніх дзецях паведамляюцца іх бацькамі (апекунамі, папячыцелямі) або паўналетнімі членамі дамашняй гаспадаркі. Можна перапісаць па інтэрнэце і сваіх пажылых сваякоў, бабуль і дзядуляў.

Ад 19 да 20 кастрычніка будзе ісці падлік рэспандэнтаў, якія перапісаліся праз інтэрнэт. Іх адрасы, як і адрасы сваякоў, за якіх запоўнілі перапісныя лісты інтэрнэт-карыстальнікі, будуць выключаны з пераліку для наведвання перапісчыкамі.

**Стацыянарныя ўчасткі будуць працаваць штодзённа ўвесь перыяд перапісу – ад 4 да 30 кастрычніка.**

Ад 21 да 30 кастрычніка перапісчыкі апытаюць рэспандэнтаў па месцы жыхарства або знаходжання.

**Пра што будуць пытацца**

Можна скараціць час вуснага апытання, назваўшы перапісчыку свой ідэнтыфікацыйны нумар.

**Гэта дазволіць загрузіць значны аб'ём дадзеных – прозвішча, імя, імя па бацьку, дату і месца нараджэння, пол, грамадзянства (падданства), месца жыхарства і (або) месца знаходжання.**

Аўтаматычна запаўняюцца адпаведныя графы перапіснога ліста.

Абарона асабістай інфармацыі пры перапісе гарантуецца. Дадзеныя па заканчэнні апытання перадаюцца па абароненаму каналу сувязі на сервер Белстата і аўтаматычна выдаляюцца з планшэтнага камп'ютара. Сам перапісчык пасля працэдуры не можа іх праглядаць або рэдагаваць.

**Канфідэнцыйная інфармацыя не падлягае перадачы ў падатковыя і іншыя дзяржаўныя органы, трэцім асобам – адказнасць за захаванасць дадзеных перапісу прадугледжана законам «Аб перапісе насельніцтва».**

Усяго грамадзянам прапануюць адказаць на 49 пытанняў: персанальныя дадзеныя, аб сямейным становішчы і роднасных адносінах, аб бесперапыннасці пражывання ў населеным пункце і пражыванні на працягу года і больш у іншай краіне; пра родную мову і мову, на якой звычайна размаўляюць дома; атрыманні адукацыі; рабоце ў апошні тыдзень да пачатку перапісу; планаванні нараджэння дзяцей (толькі для жанчын ва ўзросце 18-49 гадоў) і інш.

Упершыню беларусам прапануюць адказаць на пытанні аб сельскагаспадарчай дзейнасці (зямельныя плошчы, пасевы, пагалоўе жывёлы і птушкі). Гэта агульнасусветная практыка аб'ектыўнага даследавання аграрных рэсурсаў краіны. На падставе ў тым ліку гэтых дадзеных будуць распрацоўвацца дзяржаўныя праграмы развіцця сельскай гаспадаркі.

**Паводле БелТА.**

**Запішыся беларусам!**

Глядзіце **відэа** на **rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/belarusam**



## Як пазнаць, ці сапраўдны перапісчык прыйшоў да вас?

**Перапіс насельніцтва пачнецца ў Беларусі 4 кастрычніка.**

У кожнага з перапісчыкаў пры сабе павінны быць афіцыйнае пасведчанне з пячаткай, планшэт для апытання і сумка з лагатыпам перапісу насельніцтва-2019.

Прыходзіць дадому да рэспандэнтаў перапісчыкі пачнуць на заключным этапе – ад 21 да 30 кастрычніка.

Міліцыя рэкамендуе правяраць, ці супадаюць пашпартныя дадзеныя перапісчыка са звесткамі ў пасведчанні. Калі ў вас узнікнуць сумненні, можаце патэлефанаваць па адзіным нумары (8-801) 100-31-31. Паведаміце дадзеныя рэгістратара і чакайце адказу – ці сапраўды гэты чалавек у спісе часовага перапіснога персаналу.

Графік апытання рэспандэнтаў – ад дзевяці раніцы да дзевяці вечара.

Праваахоўнікі просяць не пускаць да сябе тых, хто называе сябе перапісчыкамі, але не мае патрэбных атрыбутаў. Гэта планшэт і сумка са спецыяльнай сімволікай, таксама перапісчык мусіць мець пры сабе пасведчанне і пашпарт. Так вы засцеражаце сябе ад махляроў, якія паспрабуюць трапіць у ваш дом пад выглядам перапісчыкаў.

Падчас перапіснай кампаніі важна засцерагчы і саміх перапісчыкаў. Таму калі яны будуць наведваць людзей, што вядуць асацыяльны лад жыцця, схільныя злоўжываць алкаголем, здзяйсняць злачынствы, перапісчыкаў будуць суправаджаць міліцыянеры.

Будзьце пільныя. Не паведамляйце асабістыя дадзеныя па тэлефоне. Перапіс насельніцтва адбываецца трыма спосабамі: можна прыйсці самім на стацыянарны ўчастак, прайсці самастойна праз інтэрнэт, або перапісчык прыйдзе да вас сам. Праз інтэрнэт можна будзе прайсці перапіс упершыню, гэта зручны і бяспечны варыянт.

**Юлія КРУК,**
**афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**



Фота paidagogos.com.

Сёлета пад пільным наглядам інспекцыі дзяржнагляду былі цацкі, тавары для дзяцей, тавары па нізкіх цэнах.

# Як стандартызацыя тычыцца кожнага

**Сусветны дзень стандартызацыі, які адзначаюць 14 кастрычніка, – свята не толькі для спецыялістаў. Яно тычыцца ўсіх людзей.**

У многіх краінах у сярэдзіне 20 стагоддзя з-за Другой сусветнай вайны панаваў эканамічны ўпадак. Людзям была патрэбная новая і якасная прадукцыя.

14 кастрычніка 1946 года ў Лондане праходзіла канферэнцыя па вырашэнні камерцыйных пытанняў паміж дзяржавамі. Гэта дата пасля стала лічыцца Сусветным днём стандартызацыі. Галоўным вынікам канферэнцыі стала заснаванне ISO. Гэта арганізацыя па стандартызацыі міжнароднага ўзроўню. Назва паходзіць ад грэчаскага слова isos, што азначае роўны.

**14 кастрычніка – Сусветны дзень стандартызацыі.**

У Беларусі Сусветны дзень стандартызацыі адзначаюць штогод ад 1992 года, калі і ўтварыўся Дзяржстандарт. Цяпер агульны беларускі рынак працуе ў межах Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС) і Мытнага саюза (МС).

На сёння прынята 47 рэгламентаў, з якіх 42 дзейнічаюць. Тэхрэгламенты ЕАЭС або МС накіраваныя вырашаць тэхнічныя бар'еры ў гандлі, гарантаваць бяспеку прадукцыі, работ і паслуг для жыцця, здароўя і маёмасці кліентаў, ахоўваць навакольнае асяроддзе, забяспечваць сумяшчальнасць і ўзаемазамяняльнасць прадукцыі, маркіроўку і адзінства метадаў кантролю.

Прымяненне тэхрэгламентаў Еўразійскага эканамічнага саюза абавязковае і дае магчымасць прадпрыемствам пастаянна паляпшаць якасць прадукцыі, забяспечваць канкурэнтаздольнасць і садзейнічаць устойліваму развіццю эканомікі краіны.

Аддзел дзяржаўнага нагляду горада Маладзечна інспекцыі дзяржаўнага нагляду за выкананнем патрабаванняў тэхрэгламентаў і стандартаў і дзяржаўнага метралагічнага нагляду Дзяржкамітэта па стандартызацыі па Мінскай вобласці і Мінску сёлета працавалі ў асноўным праз кантрольна-наглядныя мерапрыемствы. Ладзілі маніторынгі суб'ектаў гаспадарання, што мае прафілактычны і папераджальны характар.

Асаблівую ўвагу сёлета надавалі нагляднай дзейнасці за харчовай прадукцыяй, імпартнай прадукцыяй лёгкай прамысловасці, у тым ліку таварам па нізкай цане, таварам для дзяцей.

Сёлета тэмай Сусветнага дня стандартызацыі сталі стандарты ў галіне відэатэхналогій, што ствараюць глабальную пляцоўку.

**Аксана ПЯРШАЕВА,**
**галоўны дзяржаўны інспектар аддзела дзяржаўнага нагляду за тэхнічнымі рэгламентамі і стандартамі і дзяржаўнага метралагічнага нагляду Маладзечна.**

## У Радашкавічах зладзяць раённыя дажынкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

5 кастрычніка ў Радашкавічах пройдзе раённы фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі.

У парку ад 10 гадзін разгорнецца святочны гандаль. Сваю прадукцыю прадставяць гандлёвыя і перапрацоўчыя прадпрыемствы.

У 10:20 пачнецца прэзентацыя сельскагаспадарчых падворкаў і тэматычных выстаў. Будзе выстава-продаж вырабаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці майстроў і рамеснікаў, тэматычная пляцоўка гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях, пляцоўка «Тэрыторыя здароўя», выстава «Дары восені».

**Будуць працаваць фотазоны, дзіцячая пляцоўка і атракцыёны і іншыя інтэрактывы.**

У 11:10 пачнецца ўрачыстае шэсце работнікаў аграпрамысловага комплексу. У 11:30 – урачыстае адкрыццё свята, цырымонія ўручэння прэмій пераможцам раённага спаборніцтва па ўборцы ўраджаю.

Ад 13:30 да 15 гадзін пройдзе канцэрт мастацкай самадзейнасці раёна.

У гэты час будзе праходзіць і дзень здароўя і спорту на школьным стадыёне.

**Па інфармацыі Маладзечанскага райвыканкама.**

## У Вілейцы адкрыюць новыя магазіны

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта расказала на сустрэчы з работнікамі КУП «Садружнасць» намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама па эканоміцы **Марына Вазняк**, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

**Па словах намесніка старшыні, хутка адкрыюць прадуктовы магазін на плошчы Свабоды.**

Яшчэ адну краму плошчай чатырыста квадратных метраў пабудуюць каля бальніцы.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.09 | 3.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0745 | **2.0906** |
| Еўра | 2.2809 | **2.2819** |
| Злоты, 10 | 5.2055 | **5.2194** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2306 | **3.1943** |
| Грыўня, 100 | 8.5622 | **8.3994** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 25.09 | 2.10 |
| Еўра | 2.2550/2.2880 | **2.2500/2.2850** |
| Долар ЗША | 2.0550/2.0800 | **2.0730/2.0930** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 25.09 | 2.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,73 | **18,73** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,57** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | – | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 1,90 | **2,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,90 | **2,95** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,85 | **0,70** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Лісічкі, 500 мл | 2,00 | **2,50** |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,70** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,80 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 2,70 | **2,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,20 | **2,80** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,70** |
| Персік, 1 кг | 3,40 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 2,90 | **3,30** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Двух маладзечанцаў ударыла токам у Смалявічах, адзін памёр

МАЛАДЗЕЧНА

19 верасня двое жыхароў Маладзечна былі ў камандзіроўцы ў Смалявічах і рамантавалі там абсталяванне ў кабельным калодзежы на адной з вуліц.

Падчас працы 36-гадовага мужчыну ўдарыла токам. Ад гэтага ён памёр на месцы.

Яго 31-гадовага калегу шпіталізавалі. Цяпер ён пад наглядам медработнікаў, паведамляе афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Завялі крымінальную справу аб парушэнні правілаў аховы працы, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына згарэў у сваёй лазні

ВІЛЕЙКА

Пра пажар на вуліцы Матросава ў Вілейцы паведаміў мужчына 28 верасня пасля 21:00.

Калі першае падраздзяленне выратавальнікаў прыехала на месца, убачылі, што адкрытым полымем гарыць лазня. На іншыя будынкі агонь не перакінуўся.

Па словах суседзяў, у лазні мог быць гаспадар. Калі выратавальнікі зайшлі ў памяшканне, на падлозе ўбачылі мужчыну. Гэта быў 53-гадовы гаспадар. Яго вынеслі на двор. Медыкі канстатавалі смерць.

Як расказалі ў інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС, драўляная лазня выгарала знутры.

У парылцы стаяла самаробная металічная печка. Няправільнае яе выкарыстанне разглядаюць як верагодную прычыну пажару.

Следчыя праводзяць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанец загінуў ад апёкаў газавай плітой

МАЛАДЗЕЧНА

25 верасня ў адной з кватэр шматпавярхоўкі ў Маладзечне знайшлі загінулага мужчыну з тэрмічнымі апёкамі.

На месца выехалі маладзечанскія следчыя. Устанавілі, што загінулы – 58-гадовы гаспадар кватэры.

Па словах афіцыйнага прадстаўніка Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяны Беланог**, цяпер следчыя праводзяць праверку.

Устанаўліваюць магчымыя прычыны здарэння. Сярод іх – апёкі ад канфорак газавай пліты. Не выключана, што мужчына ўключыў газ, а потым яму стала дрэнна.

Дакладную прычыну ўстановіць следства.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У вёсцы ад печкі загарэўся дом

СМАРГОНЬ

Удзень 30 верасня выратавальнікам патэлефанаваў жыхар вёскі Кушляны і паведаміў, што ў яго доме пажар.

Падраздзяленні МНС тут жа накіраваліся па адрасе. Полымя ахапіла дах і маёмасць у доме. Абаранілі ад пажару хлеў і жылчасць. Людзі не пацярпелі.

Высветлілася, што гаспадыня распаліла ў кухні ацяпляльна-варачную печ, якой карыстаецца вельмі рэдка, і разам з мужам занялася гаспадарчымі справамі ў двары. Праз некаторы час звярнула ўвагу на дым з адкрытых дзвярэй. Увайсці ў жыллё пажылыя людзі не змаглі. Гаспадар патэлефанаваў на нумар 101.

Як мяркуецца, прычына ўзгарання – парушэнне правілаў эксплуатацыі печы.

**Паводле МНС.**

## Дзеці летам працавалі ў лагеры, але ім не заплацілі

АШМЯНЫ

Пракуроры выявілі недахопы ў арганізацыі працы аздараўленчых лагераў, а таксама лагераў працы і адпачынку. Пра гэта БЕЛТА паведамілі ў службе інфармацыі пракуратуры Гродзенскай вобласці.

У пракуратуры адзначылі, што належны кантроль за выкананнем заканадаўства арганізацыямі, у якіх на балансе ёсць аздараўленчыя лагеры, у рэгіёне быў наладжаны не заўсёды.

На базе Ашмянскага дзяржаўнага прафесійнага аграрна-тэхнічнага каледжа сёлета ад 29 ліпеня да 21 жніўня дзейнічаў лагер працы і адпачынку. Дзеці працавалі ў сталовай, на збожжаскладзе, прылеглай тэрыторыі каледжа.

– Працоўныя або грамадзянска-прававыя дагаворы з імі не заключалі. У выніку, узнагароджанне за працу яны не атрымалі. Фактычна на базе каледжа функцыянаваў не лагер працы і адпачынку, а аздараўленчы лагер без пэўнага напрамку дзейнасці, – адзначылі ў службе інфармацыі пракуратуры вобласці.

Аналагічныя парушэнні былі і ў іншых навучальных установах Смаргонскага раёна.

**Паводле БелТА.**



Фота pixabay.com.

Дырэктар ездзіў па асабістых справах, а паездкі афармляў як камандзіроўкі.

# Кіраўніка падазраюць у фіктыўных камандзіроўках

ВІЛЕЙКА

**Дырэктара аднаго з перапрацоўчых прадпрыемстваў Вілейкі абвінавачваюць у службовым падлогу.**

Па матэрыялах праверкі заканадаўства аб барацьбе з карупцыяй пракурор Вілейскага раёна ўзбудзіў крымінальную справу.

Кіраўнік ездзіў па асабістых справах ва ўласны дом у Калодзішчах на службовым аўтамабілі ад студзеня да ліпеня 2019 года.

**Для гэтага ён арганізаваў і забяспечыў сістэматычнае складанне і падпісанне афіцыйных дакументаў, у якіх былі загадзя лжывыя звесткі і запісы.**

Ён выдаваў загады аб сваім камандзіраванні на прадпрыемствы Мінска нібыта для вырашэння службовых пытанняў.

Затым даваў указанні падначаленым супрацоўнікам выпісваць на падставе гэтых загадаў камандзіровачныя пасведчанні, дарожныя лісты, складаў авансавыя справаздачы па камандзіроўках.

Пасля падазраваны зацвярджаў табелі ўліку працоўнага часу за гэтыя месяцы з недакладнай інфармацыяй.

На падставе фіктыўных афіцыйных дакументаў кіраўніку налічвалася зарплата і пакрываліся выдаткі за нібы службовыя камандзіроўкі.

Таксама вядома, што прадпрыемства аплачвала яму арэнду аднапакаёвай кватэры ў Вілейцы.

Сама ж арганізацыя знаходзілася ў цяжкім фінансавым становішчы з-за адсутнасці сыравіны для вырабу прадукцыі.

Супрацоўнікаў ад снежня 2018 года да ліпеня 2019-га пераводзілі на чатырохдзённы працоўны тыдзень, а для патрэб вытворчасці выкарыстоўвалі рэсурсы дзяржаўнага рэзервовага фонду.

**Паводле БелТА.**

## Дзве фірмы пацярпелі ад кібератакі

МАЛАДЗЕЧНА

**Шкоднаснае паведамленне паступіла на электронную пошту аднаго з прадпрыемстваў Маладзечанскага раёна, найбуйнейшага вытворцы керамічных вырабаў.**

Пасля праверкі карэспандэнцыі серверны камп'ютар быў заблакаваны. Для атрымання доступу да зашыфраванай камерцыйнай інфармацыі неабходна было заплаціць пэўную суму.

Паводле слоў работнікаў прадпрыемства, сёлета гэта трэці факт кібератакі. У папярэдніх выпадках спецыялісты змаглі аднавіць пашкоджаныя файлы, таму кіраўніцтва ў міліцыю не звярталася. На гэты раз вірус знішчыў усе інфармацыйныя базы дадзеных, у тым ліку іх рэзервовыя копіі. Гэта прывяло да дэстабілізацыі дзейнасці прадпрыемства.

Тыднем раней ад хакерскай схемы пацярпела яшчэ адна маладзечанская фірма. Пра гэта праваахоўнікам паведаміла бухгалтар прыватнай кампаніі. Жанчына распавяла, што на экране камп'ютара з'явілася дыялогавае акно. У ім паведамлялася аб шыфраванні файлаў і патрабаванні выкупу ў біткоінах. Каб даведацца суму, неабходна было звязацца са зламыснікамі па названай «электронцы».

Аператыўнікі мяркуюць, што вірус-шыфравальшчык трапіў на камп'ютар пасля праверкі электроннай пошты.

Цяпер па фактах шыфравання карыстальніцкай інфармацыі з наступным вымагальніцтвам грошай праводзяць праверку. Прызначылі камп'ютарна-тэхнічныя экспертызы. У дзеяннях зламыснікаў праваахоўнікі ўгледжваюць прыкметы складу злачынства, прадугледжанага артыкулам «Распрацоўка, выкарыстанне альбо распаўсюджанне шкоднасных праграм».

Складанасць раскрыцця кіберзлачынстваў у тым, што хакеры, як правіла, знаходзяцца за мяжой. Вызначыць іх асобы практычна немагчыма. Таму не варта грэбаваць правіламі інфармацыйнай бяспекі. Расшыфраваць камерцыйныя дадзеныя часта не пад сілу нават самым дасведчаным IT-спецыялістам.

Міліцыя рэкамендуе кожнай арганізацыі выпрацаваць выразную палітыку па барацьбе з кіберзлачыннасцю. Не варта эканоміць на бяспецы, верны спосаб абараніць фінансавыя ўкладанні – звярнуцца да кампетэнтных арганізацый або спецыялістаў. І самае галоўнае, рэгулярна выконвайце рэзервовае капіраванне дадзеных, захоўвайце іх у аддаленым месцы.

**Юлія КРУК,**
**афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**


Фота closermag.fr.

Жак Шырак.

# Жак Шырак дапамог маладзечанцу зноў пабачыць горад дзяцінства

**Былы прэзідэнт Францыі памёр 26 верасня. З Жакам Шыракам вёў доўгую перапіску Аляксандр Салагуб з Маладзечна.**

Аляксандр Салагуб нарадзіўся ў французскім горадзе Алес, але потым пераехаў жыць у Савецкі Саюз. Дзякуючы лісту да Жака Шырака напрыканцы 1990-х у маладзечанца з'явілася магчымасць зноў наведаць горад дзяцінства.

### Марыў вярнуцца ў Францыю шмат год

Салагуб думаў паехаць у Францыю яшчэ ў часы Савецкага Саюза, але гэта мара тады не змагла здзейсніцца. Нават на хвалі гісторый пра тое, што кіраўнікі СССР і ЗША дазвалялі некаторым грамадзянам наведваць савецкія і амерыканскія гарады. Адной са знакамітых гісторый быў прыезд Саманты Сміт, якая вяла перапіску з генеральным сакратаром Юрыем Андропавым і пасля напісала пра візіт кніжку «Падарожжа ў Савецкі Саюз».

У 1999 годзе Аляксандру Салагубу прапанавалі напісаць ліст Жаку Шыраку, які быў прэзідэнтам Францыі ў той час. Шырак даў адказ у 2000-м.

Бліжэй да новага года Аляксандр Салагуб атрымаў пісьмо разам з паштоўкай ад Жака Шырака. Французскі прэзідэнт павіншаваў са святамі, але адзначыў, што не мае права запрашаць беларуса. Шырак патлумачыў, што гэтай справай займаецца французскае пасольства ў Мінску, таму параіў звярнуцца непасрэдна туды.

Салагуб з'ездзіў у пасольства. Консул паразмаўляў з ім і адказаў, што трэба метрыка. Метрыку, па словах Салагуба, забралі ў яго сям'і пры ўездзе ў Савецкі Саюз. Пасля таго, як Аляксандр атрымаў метрыку, консул сумесна з паслом вырашалі пытанне пра візу. І зусім хутка Салагуб атрымаў візу і паехаў у Францыю.

### Паездка ў Алес і працяг перапіскі з Шыракам

– Ехаў два дні да Алеса на аўтобусе Масква–Ніца, а пасля перасеў на цягнік. І так яшчэ 150 кіламетраў. Прыехаў у горад – ужо ноч. Вырашыў адразу ісці ў мэрыю. Грукаўся ў дзверы, але мне ніхто не адчыніў. У нас жа заўсёды вахцёры адчыняюць. Пайшоў адтуль, думаў на вакзале пераначаваць.

Салагуб ішоў да вакзала па дарозе, а міма ехаў паліцэйскі аўтамабіль. Ён спыніў машыну, каб французскія праваахоўнікі дапамаглі знайсці месца, дзе пераначаваць. Паліцэйскія спачатку спыталіся, каго ён ведае ў Алесе. Салагуб назваў імя сяброўкі сястры. Паліцыя прывезла да яе дома, але жанчына сказала, што не ведае беларуса.

> – Паліцэйскі засмяяўся, адвёз мяне ў горад да нейкага дома. Зайшоў унутр, выйшаў разам з мужчынам. Аказалася, што гэта была начлежка. Гарбачоў не жыў так, як жылі ў гэтай начлежцы. Я там паеў, памыўся.

Раніцай Салагуб пайшоў у мэрыю. Там пазнаёміўся з мэрам, які прапанаваў яму гатэль на тры тыдні.

– Хадзіў па сцежках дзяцінства, сустрэў знаёмых. Праўда, я нікога не пазнаваў, а мяне ўсе пазнавалі, таму што якім я быў худым, такім і застаўся.

Пасля вяртання ў Беларусь Салагуб напісаў ліст Шыраку, у якім падзякаваў за магчымасць з'ездзіць у Францыю.

> Яны вялі доўгую перапіску, у якой віншавалі адзін аднаго са святамі.

– Я разумею, што лісты пісалі яго памочнікі, але ён жа сам распісваўся.

Французская амбасада ведала пра перапіску паміж Салагубам і Шыракам.

Сёлета 26 верасня Жак Шырак памёр. Па запрашэнні французаў Салагуб наведаў пасольства, дзе пакінуў ліст на беларускай мове са спачуваннямі.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## У Беларусі больш за 15% людзей – старэйшыя за 65 год

Доля людзей, старэйшых за 65 гадоў, у Беларусі складае 15,2%, паведаміў журналістам намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Аляксандр Румак**, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

– Беларускае грамадства старэе. Па міжнароднай класіфікацыі, грамадства з'яўляецца старым, калі доля людзей ва ўзросце 65 гадоў і старэй складае 7%. У нашай краіне гэты паказчык – 15,2% ад агульнай колькасці насельніцтва, гэта значыць, мільён 440 тысяч чалавек ва ўзросце за 65 гадоў, – сказаў Аляксандр Румак.

> **По дадзеных на 1 ліпеня, узросту сто і больш гадоў дасягнулі 396 чалавек. У краіне расце працяглась жыцця, адпаведна, павялічваецца колькасць людзей сталага ўзросту.**

– А іншы працэс, які мог бы паўплываць, – нараджальнасць, на жаль, мае крыху іншыя тэндэнцыі, – адзначыў намеснік міністра.

**Паводле belta.by.**

## Беларусы сталі больш актыўна афармляць карту паляка

За апошнія тры гады яе атрымала ўжо больш за 55 тысяч чалавек, у той час як за папярэднія восем гадоў карту аформілі больш за 75 тысяч чалавек, паведамляе Tut.by са спасылкай на Rzeczpospolita.

Па стане на канец верасня 2019 года карту паляка атрымалі амаль 137 тысяч грамадзян Беларусі: 131 770 чалавек – у Беларусі, 5 376 беларусаў здалі экзамен на карту ў польскім Беластоку, яшчэ 1,5 тысячы заяў знаходзяцца на разглядзе.

Карту паляка пачалі выдаваць у 2008 годзе.

Магчыма, што цікавасць да карты абумоўлена прывілеямі, якія з'явіліся пасля папраўак 2016 года: яе ўладальнікі цяпер могуць бясплатна атрымаць карту пастаяннага пражывання, а праз год – польскае грамадзянства. Таксама яны могуць разлічваць на дапамогу ў адаптацыі, у тым ліку грашовыя дапамогі для пакрыцця выдаткаў і пражыванне на тэрмін да дзевяці месяцаў, суфінансаванне арэнды кватэры, бясплатныя інтэнсіўнае вывучэнне польскай мовы або прафесійныя курсы.

**Паводле tut.by.**

## На «Оскар» ад Беларусі намінавалі фільм пра жаночую турму

Беларусь на прэміі «Оскар» будзе прадстаўляць дакументальны фільм «Дэбют», зняты ў 2018 годзе рэжысёрам **Настассяй Мірашнічэнкай**, паведамілі TUT.by ў Нацыянальным оскараўскім камітэце.

– На разгляд у беларускі оскараўскі камітэт былі пададзены тры заяўкі: «Дэбют» Настассі Мірашнічэнкі, «Унутры сябе» **Сяргея Талыбава** і «Кадзіш» **Кастуся Фама**, – распавёў сакратар беларускага оскараўскага камітэта, прадзюсар **Валеры Дзмітрачэнка**. – Наш камітэт прыняў рашэнне аб тым, што Беларусь на «Оскар» будзе прадстаўляць дакументальны фільм «Дэбют», які распавядае пра тэатр у жаночай калоніі. Карціну прапанавана намінаваць у катэгорыі «Лепшы замежны фільм».

> **Заяўкі на «Оскар» ад Беларусі прымаліся ад 5 да 17 верасня. Да намінантаў прад'яўляліся пэўныя патрабаванні. У прыватнасці, гэта павінны быць поўнаметражны гульнявы, дакументальны або анімацыйны фільм працягласцю не менш за 40 хвілін, зняты за межамі Злучаных Штатаў Амерыкі.**

Дамінантнай мовай не павінна быць англійская. Арыгінальны запіс дыялогаў, а таксама гатовы фільм павінны быць пераважна на беларускай або рускай мовах. Фільм павінны быць выпушчаны ў камерцыйны пракат ад 1 кастрычніка 2018 да 30 верасня 2019 года і дэманстравацца не менш за 7 дзён запар.

92-я цырымонія ўручэння ўзнагарод прэміі «Оскар» за дасягненні ў галіне кінематаграфіі адбудзецца 9 лютага 2020 года ў Лос-Анджэлесе.

**Паводле tut.by.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ВІНШАВАНКА

**Выкладчыцы гімназіі-каледжа мастацтваў Святлане Уладзіміраўне АФАНАСЬЕВАЙ**

Віншую з Днём настаўніка і Міжнародным днём музыкі самую лепшую настаўніцу па фартэпіяна, выкладчыцу гімназіі-каледжа мастацтваў Святлану Уладзіміраўну Афанасьеву!

Адзін з самых значных у жыцці людзей – настаўнік. Няважна, які прадмет ён выкладае, важныя толькі яго адносіны да дзяцей і школы. Вы асаблівы чалавек! Я хачу Вам падзякаваць за ўсё тое цудоўнае, чаму вы вывучылі маю дачку, і пажадаць Вам шчасця, удачы, здароўя, самых лепшых у свеце вучняў і каб у душы заўсёды гучала радасная і добрая мелодыя!

*С рожденья живёт*
*Музыка с нами.*
*В ней песни дождя,*
*Колыбельная мамы.*
*Звуки мелодий,*
*Их переливы*
*Делают мир наш*
*Добрей и счастливей…*

**Святлана ПАЛУБІНСКАЯ з Маладзечна.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ЗАЗ-Таўрыя, 2006 г.в., выдатны стан, 1900 рублёў. Т. (8-029) 6653394.*

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Пежо 306, універсал, 1997 г.в., 1,8 куб. см, 3500 рублёў. Т. (8-029) 1945715.

• Фольксваген-Гольф 3, 1,4 мона, 5-дзверны, па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Форд КА, 1999 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Гума зімовая Amtel 155/70 R13, трохі б/у, нядорага. Т. (8-044) 4613770.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто, можна аварыйны. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• **3-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў МЯДЗЕЛЕ, ВУЛ. ЮБІЛЕЙНАЯ, 21. Т. (8-029) 3926213.***

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне або абмяняю на кватэру ў Валожыне ці Маладзечне. Т. (8-0176) 533659, (8-025) 9115360, (8-033) 6384534.*

• 2-пакаёвая кватэра на 2 паверсе ў Вілейцы. Нядорага. Тэрмінова. Т. (8-01771) 39665.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул.Чкалава, 8. Цана 66 000 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.

• Гараж 22 кв.м у Маладзечне па вул. Машэрава, ГК «Бампер №4». Памер 5,8х3,8 + падвал па ўсім перыметры. Цана 5 000 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дача на беразе ракі Вілія, в. Алянец, 22 км ад Маладзечна, 14 км ад Смаргоні. Участак 6 сотак, дом 30 кв. м. Цана 12 500 рублёў + торг. Т. (8-029) 9279144.

• Дом у вёсцы Самалі. Т. (8-033) 3958668.*

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, раён «Зеніт». Т. (8-029) 7762020.

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*



## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з露 сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы выва, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ



### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі і козлікі, Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Парасяты в’етнамскія, 2,5 месяца, па 60 рублёў. Т. (8-029) 8771541, (8-029) 2523254.

• Парасяты кармалаў, бульба. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Пеўні маладыя па 7 рублёў. Т. (8-029) 2698633.*

• Шчаняты ўсходне-еўрапейскай аўчаркі. Т. (8-029) 7046266.*

**Іншае**

• Бульба. Т. (8-029) 5062507, (8-029) 6980347.*

• Буракі кармавыя, кабачкі, гарбузы (на корм жывёле). Магчымая дастаўка. Т. (8-029) 6887462.

• Гандлёвы павільён (харчовы) на рынку ў Вілейцы. Т. (8-029) 7016721.*

• Кацёл у лазню. Т. 98-029) 8641666.*

• Паліто жаночае, 44 памер, 25 рублёў. Т. (8-033) 3017983.

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т.(8-029) 2552321.*

**Антыкварыят**

• Манету царскую. Т. Вэлком (8-029) 64881147.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Пацеркі з янтару. Т. 98-029) 6511477.

### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. МТС (8-029) 5787964.

## Беларусь 1

**6.20** Існасць.
**6.50, 21.45** Х/ф **«НАПРАСНЫЕ НАДЕЖДЫ».**
**8.25** Кулинарная дипломатия.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** Маршрут построен.
**9.45** Здоровье.
**10.40** Дача [СТ].
**11.15, 12.10, 13.15** Х/ф **«МАТЬ ЗА СЫНА».**
**15.15** Краіна.
**15.45** «Все за стол!».
**16.35** Х/ф **«СКОЛЬКО СТОИТ СЧАСТЬЕ».**
**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.
**21.00** Панорама.
**1.10** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**
**7.50** Т/с **«ЛЮБИМЦЫ».**
**9.15, 21.05** Телебарометр.
**9.20** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**10.45** Кто я?
**11.10** Копейка в копейку.
**11.45** Камень, ножницы, бумага.
**12.25** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн-шоу.
**13.20** «Король десертов».
**14.55** «Когда мы дома». Скетчком.
**15.25** Х/ф **«ТЕЛЕВЕДУЩИЙ: И СНОВА ЗДРАВСТВУЙТЕ».**
**17.20** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.
**19.00** Х/ф **«ДИВЕРГЕНТ 3: ЗА СПИНОЙ».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.15** «Шерлоки». Детективное шоу.
**22.15** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».
**7.55, 14.15, 20.15** Навіны культуры.
**8.15, 20.35** «Гэты дзень».
**8.20** «Розныя лёсы». Мастацкі фільм.
**10.00** «Жывая культура». Традыцыйнае мастацтва маляванкі дыванoў Віцебскага Паазер'я.
**10.25** «Беларуская кухня». Бабка-грачанік.
**11.00** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу. Народны ансамбль песні і танца «Слуцкія паясы» Лучнікоўскага цэнтра культуры (г.Слуцк Мінскай вобласці).
**11.50** «Народны майстар». Марыя Кулецкая.
**12.15** «З жыцця начальніка крымінальнага вышуку». Мастацкі фільм.
**13.50** «Навукаманія».
**14.35** «Жыве такі хлопец». Мастацкі фільм.
**16.10** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
**16.50** «Вайна пад стрэхамі». Мастацкі фільм [СТ].
**18.25** «Сыны ідуць у бой». Мастацкі фільм [СТ].
**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – кіраўнік Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі і Фонду Марыі-Магдалены Радзівіл Алесь Сапега.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** XIV Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Праграма «УСХОД – ЗАХАД». Міжнародны камерны аркестр «EAST-WEST CHAMBER ORCHESTRA». Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – Расціслаў Крымер. Саліст – Фазыл Сай (фартэпіяна) (Турцыя).
**22.35** Прэм'ера. «Сын прабацьку». Дакументальны фільм да 100-годдзя Уладзіміра Алоўнікава.
**23.15** «Арт-гісторы». Май Вольфавіч Данцыг. «На крылах Мая, ці Убачыць горад з вышыні птушынага палёту».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** «Играй, гармонь любимая!».
**8.00** «Савелий Крамаров. Джентльмен удачи. Смешной до слез».
**9.40** Х/ф **«ПО СЕМЕЙНЫМ ОБСТОЯТЕЛЬСТВАМ».**
**12.10** Т/с **«ЕСЛИ ТЫ НЕ СО МНОЙ».**
**15.40** ОНТ представляет: «Судьба моя – Беларусь».
**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.
**17.55** «Сегодня вечером».
**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.10** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига.
**23.20** Т/с **«БЕЗОПАСНОСТЬ».**

## СТВ

**6.15** «Странное дело».
**7.55** «Анфас».
**8.15** «Самая полезная программа».
**9.05** Документальный проект.
**10.00** «Минск и минчане».
**10.35** «Центральный регион».
**11.05** «Водить по-русски».
**11.30, 13.40, 16.40, 20.05** Т/с **«ЖИЗНЬ И ПРИКЛЮЧЕНИЯ МИШКИ ЯПОНЧИКА».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ спорт».
**23.30** Документальный спецпроект.

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.10, 8.55, 5.00** Мультфильмы.
**6.20** «Союзники».
**6.50** «Такие разные».
**7.20** «Секретные материалы».
**7.50** «Любовь без границ».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.15** «Как в ресторане».
**10.50** Х/ф **«СЕМЬ НЕВЕСТ ЕФРЕЙТОРА ЗБРУЕВА».**
**12.50, 16.15, 19.15** Т/с **«ЗОЯ».**
**22.15** Т/с **«ОПАСНОЕ ЗАБЛУЖДЕНИЕ».**
**2.00** Х/ф **«СЛОНЫ МОИ ДРУЗЬЯ».**

## НТВ-Беларусь

**5.55** «Астропрогноз».
**6.00** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**7.00** Х/ф **«СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».**
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.50** Премьера. «Врачебные тайны плюс».
**9.25** «Города Беларуси».
**10.25** Главная дорога.
**11.05** «Еда живая и мёртвая».
**12.05** Квартирный вопрос.
**13.10** «Поедем, поедим!».
**14.05** Х/ф **«ВОР».**
**16.25** «Следствие вели…».
**17.15, 20.40** Т/с **«ШЕЛЕСТ».**
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**22.50** «Последние 24 часа».
**0.30** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».
**10.05** «Сто к одному».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Пятеро на одного».
**12.15** Х/ф **«ЭХО ГРЕХА».**
**14.10** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**16.10** Х/ф **«ОПАВШИЕ ЛИСТЬЯ».**
**19.45** «Плюс минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.40** Х/ф **«ЛИНИЯ ЖИЗНИ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Бойфренд из будущего. **8.45** Афера по-американски. **11.45** Ешь, молись, люби. **14.30** Люди в чёрном. **16.25, 4.35** Люди в чёрном 2. **18.05** Люди в чёрном 3. **20.10** Соммерсби. **22.25** Идентификация Борна. **0.40** Магия лунного света. **2.30** Любовь и другие лекарства.

### TV1000 ACTION

**8.00** Универсальный солдат. **10.15** Терминатор 2: Судный день. **13.05** Реальные парни. **14.45** Ямакаси: Свобода в движении. **16.25** Легенда. **19.00** Другой мир. **21.10** Терминатор 3: Восстание машин. **23.10** Законопослушный гражданин. **1.10** Криминальное чтиво. **4.00** Патриот.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.40** Параграф 78: Фильм второй. **9.30** Какая чудная игра. **11.15, 4.05** Убежать, догнать, влюбиться. **12.50** За гранью реальности. **14.55** Трудно быть Мачо. **16.50, 5.30** Призрак. **19.00** Спасибо деду за победу. **20.50** Каникулы строгого режима. **23.00** Майор. **0.50** Неуловимые: Последний герой. **2.15** Час пик.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.30, 10.30** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 11.30** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ». 14.00** «Мама Russia». **15.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ». 17.15** Х/ф **«ОТМЕЛЬ». 19.00** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ АМАЗОНКИ». 21.00** Х/ф **«СМЕШАННЫЕ». 23.15** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 1.15** Х/ф **«ПОД ПЛАНЕТОЙ ОБЕЗЬЯН». 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 12.00, 13.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 14.00, 15.00** Т/с **«ПЕЛАГИЯ И БЕЛЫЙ БУЛЬДОГ». 20.00, 21.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 22.00, 23.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 2.00, 3.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 4.00, 5.00** Т/с **«БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ». 6.00, 7.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.20, 17.35** Х/ф **«ГУДЗОНСКИЙ ЯСТРЕБ». 3.05** Х/ф **«НИ МИНУТЫ ПОКОЯ». 4.25** Х/ф **«ДЕТИ СЕКСУ НЕ ПОМЕХА». 6.20** Х/ф **«СЕКСА МНОГО НЕ БЫВАЕТ». 8.25** Х/ф **«БАНДИТКИ». 10.10** Х/ф **«ТРЕЗВЫЙ ВОДИТЕЛЬ». 12.05** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ». 13.50** Х/ф **«ВИД СВЕРХУ ЛУЧШЕ». 15.30** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 19.35** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 21.35** Х/ф **«1+1». 23.40** Х/ф **«ЯГУАР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.25** Карточный домик. **2.10, 3.00, 4.00, 5.15** Далеко от войны. **6.15, 7.10, 8.05, 9.00** Вероника не хочет умирать. **10.00, 11.00, 12.05, 13.05, 14.10, 15.10, 16.15, 17.20, 18.20, 19.25, 20.30, 21.35** Городские шпионы. **22.35, 23.35** Жизнь только начинается.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10, 16.30** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **11.20** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Х/ф **«РИО». 17.00, 18.50, 20.40, 23.00** Прогноз погоды на неделю. **17.05** Х/ф **«НАША RUSSIA: ЯЙЦА СУДЬБЫ». 18.55** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **20.45** Х/ф **«ПЛАН ПОБЕГА». 23.05** Ужасы «ЧЕЛЮСТИ 3D». **0.45** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **1.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30** Теннис. WTA. Тяньцзинь. 1/2 финала. **10.15** Хоккей. КХЛ. Йокерит (Хельсинки) – Динамо-Минск. **11.50** Мини-футбол. Лига чемпионов УЕФА. Основной раунд. Тулон Элит (Франция) – Ховокубо (Нидерланды). **13.35** Большой спорт. **14.20** Мини-футбол. Лига чемпионов УЕФА. Основной раунд. Столица (Беларусь) – Либурн (Косово). **16.05** Азбука спорта. **16.15** Тренировочный день. **16.50** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Динамо (Молодечно) – ХК Гомель. В перерывах Спорт-центр. **19.15** Гандбол. Лига чемпионов. БГК им.Мешкова (Беларусь) – Мотор (Украина). В перерыве Спорт-центр. **21.00** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **21.35** Футбол. Квалификация к Евро-2020. Норвегия – Испания. В перерыве Спорт-центр. **23.35** Мир английской премьер-лиги. **0.05** Хоккей для всех.

### EUROSPORT

**0.05** Олимпийские игры. Camps to champs. **0.35** Олимпийские игры. «Сила личности». **1.05, 5.30, 9.30, 14.00** Велоспорт. «Гран Пьемонте». **2.30, 4.00, 7.00, 8.30, 11.00, 12.00** Теннис. WTA. Линц. 1/4 финала. **13.00** Велоспорт. Милан – Турин. **15.30, 23.05** Велоспорт. «Тур Ломбардии». **18.30, 21.35** WATTS. **18.50** Супербайк. Этап чемпионата мира. Аргентина. Суперпоул. **19.30, 20.35** Теннис. WTA. Линц. 1/2 финала. **21.50** Супербайк. Этап чемпионата мира. Аргентина. Первая гонка.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Тест на «Драйве». **6.25, 9.30, 12.00, 15.00, 18.05, 22.30, 0.15, 3.25** Итоговые новости. **6.40** Комплектация. **7.05, 0.25** От Кавказа до Аравии. **8.05** Советы юриста. **8.45** Испытание на прочность. **9.15** Тайный покупатель. **9.45** Мото-тест. **10.35, 19.45, 22.45, 3.40** Гаражная команда. **11.20, 20.35, 23.35, 4.25** Сделано в России. **11.45, 21.05, 0.00, 4.50** Школа внедорожного вождения. **12.20** Сделаем как надо. **13.40, 15.15, 18.20** Своими руками. **21.20, 5.05** Резьба по стали. **21.50, 5.35** Поездка выходного дня. **22.20** Авто: вторые руки. **0.55** Сити-тестер. Эксклюзив. **1.25** Сравнительный тест. **1.50** Вечер с Пикуленко. **2.30** Автовинтаж. **3.00** Автодело.

### EXPLORE

**6.10, 6.55, 7.45, 8.35** Переделка старья. **9.25, 10.15** Тренировка по древним традициям. **11.10, 11.55, 12.40, 13.30, 14.15, 0.50, 1.40, 2.25, 3.10, 4.00, 4.45** Австралийские золотоискатели. **15.00, 15.50, 16.40** Адские грузовики. **17.25, 17.50, 18.15** Гараж: Последний приют. **18.40, 19.30** Строительство гигантов. **20.30, 20.45, 21.10, 21.40, 22.05, 22.35** Битва за карпов. **23.00, 23.55** Рэй Донован. **5.30** Как работают лайфхаки.

### HISTORY

**6.45, 7.15, 5.35** Невероятные изобретения. **7.45, 8.35, 9.30, 3.50, 4.45** Музейные тайны. **10.20** Невидимый город Рим. **11.25** Восемь дней, которые создали Рим. **12.20, 13.10** Тайны британских замков. **14.05, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Разгадка тайны пирамид. **19.55** Загадка катакомб. **21.00** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **22.00** История Европы. **23.00** Могилы викингов. **23.55** История оружия. **0.55** Боевые корабли. **1.50** Карты убийства. **2.45** Вторая мировая в цвете.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.50, 7.15, 7.40, 8.05** Пол О'Грэди: из любви к собакам. **8.25, 8.50, 9.15, 9.40, 10.10** Постыдные проблемы питомцев. **10.35, 11.00, 11.20, 11.50, 12.10, 12.35, 13.00, 13.25, 13.50** Природа в кадре. **14.15, 15.05, 15.55, 16.50, 17.40, 18.30, 19.20, 20.10** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **21.00, 21.50, 22.40** Анатомия крупнейших животных. **23.45** Суровая Австралия. **0.35, 1.20, 2.05** Война за животных. **2.45, 3.35, 4.25** Суперветеринар. **5.15** Новорожденные в зоопарке.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 4.45, 5.35** Панорама 360. **7.15, 8.00** На плотах по Юкону. **8.45, 9.35, 10.25** Авто – SOS. **11.10** Суперсооружения: чудеса инженерии. **11.55** Прорыв. **12.40, 13.30** Дикий тунец. **14.15, 15.05, 15.55** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.40, 17.25, 18.15** Расследования авиакатастроф. **19.00, 19.45, 22.25, 23.10** Капитуляция. **20.30** Лос-Анджелес 92: Беспорядки. **23.55, 0.40, 1.30, 2.20, 3.05, 3.55** Пропавший: Поиск Коди Дэйла.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.35** Рецепты Древней Колхиды. **6.15, 22.50** Охота в Новом Свете. **6.35, 23.15** Андрей Старков и его команда. **7.05, 18.00** Дикая кухня. **7.55, 14.30, 19.30, 2.20** Охота: собачья работа. **8.25** Битва профессионалов. **8.55** На рыбалку с охотой. **9.25** Егерский кордон. **9.55, 21.35** Нож-помощник. **10.10, 21.50** Охотничьи собаки. **10.40, 22.20** Особенности охоты на Руси. **10.55, 17.30, 1.15, 5.05** Оружейный клуб. **11.25, 19.00, 1.40, 5.35** Планета рыбака. **11.55** Рыболовные путешествия. **12.50** Фишермания. **13.20** Рыбалка 360. **13.50** Охота и рыбалка в. **14.15** Охоты и охотники. **15.05, 2.50** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **15.35, 20.35, 3.15** Нахлыст. **16.00, 21.05, 3.45** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **16.30, 4.10** Карпфишинг. **17.00, 4.40** Один день из жизни. **18.45, 1.00** Дело вкуса. **20.05** Энциклопедия рыбалки. **23.45** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **0.15** Поймать монстра. **2.05** Кухня с Сержем Марковичем.

### УСАДЬБА

**6.00, 14.05, 18.10, 22.15, 2.10** Большие идеи для маленького сада. **7.00, 11.05, 15.10, 19.15, 23.20, 3.10** Мультиварка. **7.15, 23.35** 10 самых больших ошибок. **7.45, 11.50, 15.55, 20.00, 0.05, 3.55** Урожай на столе. **8.15, 16.25, 20.25, 0.35, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 16.40, 20.45, 0.50, 4.35** Цветик-семицветик. **8.45, 16.50, 21.00, 1.05, 4.50** Высший сорт. **9.05, 17.05, 21.15, 1.15, 5.00** Альтернативный сад. **9.35, 21.50, 5.35** Секреты стиля. **10.05** Идеальные мастера. **11.20** Фитоаптека с Мариной Рыкалиной. **12.20** Крымские дачи. **12.50** Вершки корешки. **13.10** Тихая моя родина. **13.40** Огород круглый год. **15.25, 19.30, 3.25** Гвоздь в стену. **17.40** Огород круглый год. **17.55** Огород круглый год. Осенние работы. **1.45** Дачные радости с Виталием Декабревым.

## Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«НАПРАСНЫЕ НАДЕЖДЫ».**
**8.15** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.45** Истории спасения.
**10.25** «Все за стол! «.
**11.15** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Маршрут построен.
**13.15** Х/ф **«ПЕРЕВЕРНИ СТРАНИЦУ».**
**15.15** Твой город.
**15.30** Поколение.by.
**15.50** Х/ф **«ДЕВОЧКИ МОИ».**
**19.45** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«СКОЛЬКО СТОИТ СЧАСТЬЕ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**
**7.50** Т/с **«ЛЮБИМЦЫ».**
**8.55, 21.15** Телебарометр.
**9.00** «Зов крови». Социальное реалити-шоу.
**10.10** «Селапалетела». Трэвел-шоу.
**10.45** «До свидания». Реалити-шоу.
**11.35** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн-шоу.
**12.35** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ».**
**14.35** «Папа попал». Реалити-шоу.
**16.50** Хоккей. КХЛ. Витязь (Московская обл.) – Динамо-Минск.
**19.15** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.50** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.
**22.50** Х/ф **«В ДИКИХ УСЛОВИЯХ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сказка о попе и о работнике его Балде». Мультфільм.
**7.50, 20.15** Навіны культуры.
**8.10** «Гэты дзень».
**8.15** «Жыве такі хлопец». Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Пірог слаёны блінны з птушкай і грыбамі.
**10.50** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
**11.30** «Нацыянальны хіт-парад».
**12.20** «Вайна пад стрэхамі». Мастацкі фільм [СТ].
**13.55** «Сыны ідуць у бой». Мастацкі фільм [СТ].
**15.35** «Майстры і куміры». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Вера Кавалерава.
**16.25** «Розныя лёсы». Мастацкі фільм.
**18.10** «З жыцця начальніка крымінальнага вышуку». Мастацкі фільм.
**19.35** «Фарбы памяці. Віктар Грамыка».
**20.00** «На вышыні». Музыкант Мікалай Мішчанка.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** XIV Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. «Легенды фартэпіяна». Піяніст – заслужаны артыст Расіі Барыс Беразоўскі.
**22.35** «Залатыя рыбкі музыкі Станіслава Манюшкі». Дакументальны фільм да 200-годдзя кампазітара.
**23.15** «Арт-гісторыі». «З калекцыі Лідзіі Русланавай».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** Х/ф **«ЗАЕЗЖИЙ МОЛОДЕЦ».**
**11.35** «Видели видео?».
**14.25** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**16.20** «Ролан Быков. «Я вас, дураков, не брошу…».
**17.15** Премьера. Гарик Мартиросян в новом музыкальном проекте «Щас спою!».
**18.25** Премьера. Праздничный концерт.
**20.00** «Контуры».
**21.20** Премьера. Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».
**23.15** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**23.35** Х/ф **«МЫ ИЗ ДЖАЗА».**

## СТВ

**6.00** «Странное дело».
**7.35, 20.35** Документальный спецпроект.
**9.15** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловать».
**10.30** «Большой город».
**11.05** «Водить по-русски».
**11.30, 13.40, 16.40** Т/с **«ФРОНТ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.30** «Неделя спорта».
**23.00** «Засекреченные списки».
**0.20** ПРЕМЬЕРА. Концерт «НАШИ в городе!».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.10** «Беларусь сегодня».
**6.40** Мультфильмы.
**6.55** «Знаем русский».
**7.50** «Культ/туризм».
**8.20** «Еще дешевле».
**8.55** «Всемирные игры разума».
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «С миру по нитке».
**10.50, 16.15, 19.30** Т/с **«ОХОТА НА ГАУЛЯЙТЕРА».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**23.05, 1.00** Т/с **«ЗОЯ».**

## НТВ-Беларусь

**5.55** «Астропрогноз».
**6.00** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**7.05** Х/ф **«СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».**
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.40** Их нравы.
**9.15** «Кто в доме хозяин?».
**10.25** «Первая передача».
**11.00** «Чудо техники».
**11.55** «Дачный ответ».
**13.05** «НашПотребНадзор».
**14.05** «Секрет на миллион» Сергей Лазарев. 2 ч.
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**21.30** Ты не поверишь!
**22.35** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**23.10** Х/ф **«ВОР».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Т/с **«ДЕРЖИСЬ ЗА ОБЛАКА».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Сто к одному».
**12.15** «Утренняя почта».
**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**14.00** «Смехопанорама».
**14.30** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».
**16.15** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ И ПРОЩАЙ».**
**18.05, 21.45** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ СЕРДЦЕ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.15** «В людях».
**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **7.50** Идентификация Борна. **10.05** Турбо. **11.50** Сомерсби. **14.10** Мой мальчик. **16.05** Лица в толпе. **17.55** Любовь и другие лекарства. **20.10** Давайте потанцуем. **22.10** Превосходство Борна. **0.15** Берлинский синдром. **2.30** Госпожа Бовари. **4.25** Люди в чёрном 3.

### TV1000 ACTION

**7.10** Терминатор 3: Восстание машин. **9.10** Законопослушный гражданин. **11.10** Криминальное чтиво. **14.00** Патриот. **17.00** Другой мир. **19.10** Другой мир 2: Эволюция. **21.10** Терминатор: Да придёт спаситель. **23.15** Женщина в чёрном. **1.00** Бессонная ночь. **2.50** Солдат Джейн. **5.10** Опасный квартал.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.35** Каникулы строгого режима. **9.50** Менялы. **11.35** Любовь прет-а-порте. **13.10** Спасибо деду за победу. **15.00** Час пик. **17.05** Неуловимые: Бангкок. **18.45** Любовь с акцентом. **20.45, 5.30** Джентльмены, удачи! **22.35** Волкодав из рода Серых Псов. **1.15** Я любить тебя буду, можно? **2.20** На крючке! **4.00** Грецкий орешек.

### ТВ3

**6.00, 9.30** Мультфильмы. **9.00** «Новый день». **10.30, 11.30** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 12.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 14.30** Х/ф **«СМЕШАННЫЕ». 17.00** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ АМАЗОНКИ». 19.00** Х/ф **«АНАКОНДА». 20.45** Х/ф **«ВЫЖИВШИЙ». 23.45** «Мама Russia». **0.45** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ». 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями. Битва за Москву».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 12.00, 13.00, 4.00, 5.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 14.00, 15.00** Т/с **«ПЕЛАГИЯ И БЕЛЫЙ БУЛЬДОГ». 20.00, 21.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 22.00, 23.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 2.00, 3.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 6.00, 7.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.20** Х/ф **«СУТЕНЕР». 2.55** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ». 4.20** Х/ф **«РОБИН ГУД». 6.35** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ». 8.30** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2». 10.50** Х/ф **«ТАКСИ». 12.25** Х/ф **«ТАКСИ 2». 14.05** Х/ф **«ТАКСИ 3». 15.45** Х/ф **«ТАКСИ 4». 17.25** Х/ф **«ТАКСИ 5». 19.25** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 21.05** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ 2. ПРЕСТАРЕЛЫЕ МСТИТЕЛИ». 22.40** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.25** Жизнь только начинается. **2.10, 3.00, 4.00, 4.50, 5.35, 6.25, 7.10, 8.00, 8.55, 9.55, 10.55, 12.00, 13.00** Карточный домик. **14.00, 15.00, 16.05, 17.05, 18.05, 19.10, 20.15, 21.15, 22.20, 23.20** Крик совы.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.15, 9.15, 10.40, 11.45, 12.15, 14.40, 15.45, 18.10, 19.40, 21.15, 22.50, 23.55** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.50** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **15.50** Фэнтези «ДЖУМАНДЖИ: ЗОВ ДЖУНГЛЕЙ». **18.15** Х/ф **«ВЭЛИАНТ: ПЕРНАТЫЙ СПЕЦНАЗ». 19.45, 21.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.55** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.00** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 1.50** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.20** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **3.10** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.35** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Динамо (Молодечно) – ХК Гомель. **8.30** Теннис. WTA. Тяньцзинь. Финал. **10.35** Мини-футбол. Лига чемпионов УЕФА. Основной раунд. Столица (Беларусь) – Либурн (Косово). **12.15** Пит-стоп. **12.50** Баскетбол. Единая лига ВТБ. ЦСКА (Москва) – Цмокі-Мінск. **14.40** Гандбол. Лига чемпионов. БГК им.Мешкова (Беларусь) – Мотор (Украина). **16.15** Игры «на вырост». **16.50** Гандбол. Кубок ЕГФ. Второй раунд. Ответный матч.СКА-Минск (Беларусь) – Рибница (Словения). В перерывах Спорт-центр. **18.35** Вот это спорт! **18.45** Футбол. Квалификация к Евро-2020. Беларусь – Нидерланды. В перерывах Спорт-центр. **20.50** Футбол. Квалификация к Евро-2020. Дневник игрового дня. **21.35** Футбол. Квалификация к Евро-2020. Уэльс – Хорватия. В перерыве Спорт-центр. **23.35** Итоги недели.

### Eurosport

**1.00, 18.15** Супербайк. Этап чемпионата мира. Аргентина. Первая гонка. **1.30, 2.30, 6.00, 7.00, 9.30, 13.00, 14.00** Теннис. WTA. Линц. 1/2 финала. **4.00, 8.00, 21.05** Велоспорт. «Тур Ломбардии». **10.50** Конный спорт. «Мастерс». Пекин. **14.55** Теннис. WTA. Линц. Финал. **17.00** WATTS. **17.15** Олимпийские игры. «Живые легенды». **17.45, 18.50** Супербайк. Этап чемпионата мира. Аргентина. Суперпоул. **20.00** Суперспорт. Этап чемпионата мира. Аргентина. **21.50** Супербайк. Этап чемпионата мира. Аргентина. Вторая гонка. **23.05** Велоспорт. «Тур Парижа».

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 1.25, 2.05** От Кавказа до Аравии. **6.30** Сити-тестер. Эксклюзив. **6.55** Сравнительный тест. **7.25** Вечер с Пикуленко. **8.05, 10.20, 13.30, 16.30, 19.10, 0.05, 1.55, 4.00** Итоговые новости. **8.20** Автовинтаж. **8.50** Автодело. **9.20** Вторичка. **9.35** Всё включено. **9.50** Дома на колесах. **10.05** Тайный покупатель. **10.35, 19.50, 22.55, 3.15** Гаражная команда. **11.20, 20.40, 23.40, 4.15** Сделано в России. **11.50, 21.10, 0.20, 4.40** Школа внедорожного вождения. **12.05, 13.45, 16.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **19.20** Кругосветка по бездорожью. **21.25, 4.55** Резьба по стали. **21.55, 5.20** Поездка выходного дня. **22.25, 5.45** Авто: вторые руки. **22.40** Хорошо забытое. **0.35** Тест на «Драйве». **1.00** Комплектация. **2.35** Советы юриста.

### EXPLORE

**6.20, 6.45, 7.10, 7.35, 8.05** Битва за карпов. **8.30, 9.15** Крупная и злая рыба. **10.00, 10.50** Большое рыболовное состязание. **11.35, 12.25, 13.10, 13.55, 14.45** Австралийские золотоискатели. **15.30, 15.55, 16.20, 16.45** Нефритовая лихорадка. **17.10, 18.00** Переделка старья. **18.45, 19.40** Тренировка по древним традициям. **20.30, 21.15, 22.00, 22.45, 23.30** Поисковая команда в Австралии. **0.15, 1.05, 1.50, 2.40, 3.25, 4.15, 5.00** Выжить на Аляске.

### HISTORY

**6.05, 4.05** Запретная история. **7.20, 8.15, 9.10, 10.10, 11.05** Мифические существа. **12.00** Женщина в железном гробу. **13.10** Настоящий доктор Живаго. **14.15, 15.15** Шпионаж за монархами. **16.15** Тайный Версаль Марии-Антуанетты. **17.20, 22.00, 22.55** Частная жизнь. **18.15, 19.10** Величайшие мистификации в истории. **20.00** 5000 лет истории Нила. **21.00** Разгадка тайны пирамид. **23.50** Истории из королевской спальни. **0.55, 1.25** Родовые проклятья. **1.50, 2.45** Музейные тайны. **3.35** Невероятные изобретения. **5.00** Невидимый город Рим.

### NATURE

**6.00, 7.05** 10 щенков и все остальные. **8.10, 9.05, 10.05, 11.05, 17.55, 18.55, 19.50, 20.50** Дикая Канада. **12.00, 12.30, 13.00, 13.30** Уличный ветеринар. **14.00** Ветеринар из глубинки. **14.45, 15.50, 16.50** Великая американская оттепель. **21.45** Огромные звери: последние из великанов. **22.40** Загадки исчезнувших великанов. **23.35** Эволюция в действии. **0.30** Экспедиция в Европу. **1.25** Динозавры в Австралии. **2.10** Вскрытие мамонта. **2.55, 3.40, 4.30** Суперветеринар. **5.15** Новорожденные в зоопарке.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 5.15** Панорама 360. **7.15, 8.00** На плотах по Юкону. **8.45, 9.30** Национальные парки Америки. **10.15** Враждебная планета. **11.05, 11.55** Начало. **12.45, 13.30** Дикий тунец. **14.20, 15.05, 15.55** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.45, 17.30, 18.15** Служба безопасности аэропорта: Перу. **19.00, 22.05, 4.25** Нотр-Дам: гонка против ада. **19.45** Суперсооружения: чудеса инженерии. **20.30, 21.20** Суперсооружения. **22.55, 23.40** Майкл Пэйлин в Северной Корее. **0.25** Опасные путешествия. **1.15, 2.00** Авто – SOS. **2.50, 3.35** Исследователь 2.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.05** Рыбалка 360. **6.25, 23.40** Охота и рыбалка в. **6.55, 0.05** Охоты и охотники. **7.10, 18.00** Рыболовные путешествия. **8.05, 19.40, 2.20** Охота: собачья работа. **8.40** Азбука поплавочной ловли с Александром Дунаевым. **9.10, 15.50, 20.40, 3.20** Нахлыст. **9.35, 16.20, 21.10, 3.45** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **10.05, 21.40** Карпфишинг. **10.35** Один день из жизни. **11.05, 17.30, 1.25, 5.05** Оружейный клуб. **11.30, 19.10, 1.50, 5.35** Планета рыбака. **12.00, 0.25** Дикая кухня. **12.50, 18.55, 1.10** Дело вкуса. **13.05** Рецепты Древней Колхиды. **13.20** Охота в Новом Свете. **13.45** Андрей Старков и его команда. **14.15** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **14.45** На рыбалку с охотой. **15.15, 2.50** Энциклопедия рыбалки. **16.45, 4.10** Нож-помощник. **17.00, 4.25** Охотничьи собаки. **20.10** Научи меня рыбачить. **22.10** В Индийском океане. **22.40** Фишермания. **4.50** Особенности охоты на Руси.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.10, 22.15, 2.15** Большие идеи для маленького сада. **7.00, 11.05, 15.10, 19.10, 23.20, 3.15** Мультиварка. **7.15** Огород круглый год. **7.45, 11.50, 15.55, 20.00, 0.05, 3.55** Урожай на столе. **8.15, 12.20, 16.25, 20.25, 0.35, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.35, 16.40, 20.45, 0.50** Цветик-семицветик. **8.45, 12.50, 16.55, 21.00, 1.00, 4.50** Высший сорт. **9.00, 13.05, 17.10, 21.15, 1.15, 5.05** Альтернативный сад. **9.35, 13.40, 17.40, 21.50, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **11.20** 10 самых больших ошибок. **15.25** Огород круглый год. **15.40** Огород круглый год. Осенние работы. **19.30, 3.25** Гвоздь в стену. **23.35** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **4.35** Соленья-варенья-маринады.

# Нашто шмат паліцыі і чаму нельга таргавацца з бацюшкам

## Пра што пісалі ў штотыднёвіку «Наша думка» ў пачатку 1920-х

**У №18 за 6 мая 1921 года паведамляюць, што педагогі і навучэнцы з Барунскай настаўніцкай семінарыі 17 мая збіраюцца на экскурсію ў Вільню на чатыры дні.**



Вуліца Вастрабрамская ў Вільні, дзе ў пачатку 1920-х месцілася рэдакцыя «Нашай думкі».

Фота wikipedia.org

Яны агледзяць помнікі, касцёлы, цэрквы, музей братоў Івана і Антона Луцкевічаў, заводы. «Экскурсанты будуць жыць у Віленскай беларускай гімназіі. Вітаем барунскую семінарыю і зычым удачы на карысной экскурсіі».

### Нічога гаварыць няможна, апрача як хваліць Польшчу

У №16 за гэты ж год аўтар, падпісаны як **С.**, у артыкуле «Проці Польшчы каб ні слова» абураецца, што ў Ашмянскім павеце вельмі шмат паліцэйскіх. «Не ведаю, як у другіх паветах, але ў нас занадта шмат паліцыі – усюды яе поўна. Няўжо ў нас такі лік разбойнікаў якіх ці канакрадаў, што Вільня вымушае вялікія выдаткі несці на ўтрыманне паліцыі.

А як прыгледзішся да працы паліцыянтаў, дык яны ж не разбойнікаў шукаюць, а нібы зброю. Божа літасцівы!

> **Ужо сем гадоў, як усякая ўлада шукае зброю ў нас. Няшчасныя качарэжкі-стрэльбы ўжо даўно забралі ад нас, а ўсё яшчэ шукаюць і шукаюць.**

Даўно ўжо перапаролі ў нас усё. І зусім напрасна ганяюцца нашы вясковыя коні, на якіх раз'язджаюць паліцыянты, шукаючы зброю.

І нейкія тайныя дапытчыкі ўсюды ходзяць, ездзяць, хітра дапытваюцца, ці няма каго, хто гаворыць проці Польшчы, можа, дзе гаворыць хто-небудзь за Беларусь ці за Літву. Нічога гаварыць няможна, апрача як хваліць Польшчу.

Неяк адзін панскі агітатар так і сказаў, што як пачуеш, што хто гаворыць не за Польшчу, дык хапай яго і цягні ў Ашмяну да старасты...».

### Настаўніца – за настаўніцу

У №5 за 4 лютага 1921 года друкуюць ліст, што даслала настаўніца Кузнецова. У лісце яна піша пра сваю калегу з Насілава: «Гаспадзін рэдактар! Будзьце ласкавыя надрукаваць у вашай газеце зняпраўджанне. У артыкуле «Культурнае адраджэнне» ў нумары 2 было надрукаванае, што ў Лебедзеўскай воласці ў вёсцы Насілава вучыцелька зазлавалася, што яе не прызначылі ў беларускую школу быццам бы з няведання роднай мовы. І таму яна сама заклала ў Насілаве маскоўскую школу. А было гэта вось як.

> **Вучыцелька гэтая добра ведае родную мову і любіць яе. Дастаўшы ад кіраўніка школ Лебедзеўскай воласці прызначэнне ў Насілаўскую школу, яна сабрала сход бацькоў, каторыя хацелі пасылаць сваіх дзяцей у беларускую школу.**

На гэтым сходзе бацькі былі радыя, што ў іх будзе школа. Яны пагадзіліся прывезці дроў, зрабіць парты і знайсці кватэру пад школу. Ужо было ўсё падрыхтаванае да адкрыцця школы, але ў гэту справу ўбіўся насілаўскі святар **Александроўскі**. Ён правёў агітацыю супраць беларускай школы. Урэшце школа была адчыненая не вучыцелькай, а сынамі гэтага святара. І не беларуская, а маскоўская».

> **У наступным нумары нехта пад псеўданімам А. Мсціслаўскі піша пра «лепшага сучаснага беларускага пісьменніка і паэта, яўрэя з Вялейскага павета» Змітрака Бядулю. А таксама згадвае пісьменніка, што выйшаў з валожынскага ешыбота, Х. Н. Бяліка.**

### Не таргуйся, гад, з бацюшкам

№3 ад 1921 года пачынаецца спачуваннем. «С. Сухадолец, вучыцель з вёскі Дубіна Забрэскай вобласці Ашмянскага павета, памёр па дарозе ў Ліду пасля страшэнных пакутаў ад рук гвалтаўнікоў».

У №26 ад 1920 года пра роднае мястэчка Маркава піша аўтар пад псеўданімам **Маркавец**. «Нягледзячы на тое, што мястэчка наша недалёка ад чыгункі, але жывём мы толькі чуткамі.

> **Газет на атрымліваем, а калі атрымліваем, дык вельмі рэдка. Начальства, мусіць, хоча, каб спакайней жылі, дык не дапушчае. Вядома, прачытаўшы газету, у галаве яшчэ закруціць.**

Але і не чытаючы газет, мы бачым, што дарагоўля расце. Нават на царкоўныя патрэбы цэны значна падняліся. Наш маркаўскі бацюшка **Васіль Нядзведскі** – не промах. Калі зарабіць, дык зарабіць добра.

Надоечы адзін селянін хацеў закупіць імшу па памерлым. Але хаценне яго засталося толькі хаценнем – не старгаваліся. Бацюшка цэннік не вывесіў у свой час, а селянін не ведаў, што благадаць божая падаражэла. Таргаваліся доўга. Бацюшка прасіў пуд жыта і пяцьсот марак. Селянін, не маючы апошніх, даваў толькі жыта. Той не пагадзіўся.

> **Але традыцыя прымусіла пазычыць грошы, усыпаць у мяшок жыта, сабраць родных і пайсці памянуць нябожчыкаў. Але з чым прыйшлі, з тым і пайшлі. Бацюшка, выйшаўшы з пакоя, адказаў, што яму сёння няма часу служыць імшу.**

Што азначала: не таргуйся, гад, з бацюшкам. Ён табе заўсёды насоліць, калі захоча».

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

### КАЛЯНДАР

**4 КАСТРЫЧНІКА**

**1957.** У СССР праведзены запуск першага штучнага спадарожніка Зямлі.

**5 КАСТРЫЧНІКА**

**1967.** Нарадзіўся **Сяргей Харэўскі**, беларускі мастак, літаратар, гісторык мастацтва, культуролаг, мастацтвазнаўца.

**6 КАСТРЫЧНІКА**

**1876.** Нарадзіўся **Ян Булгак**, фотамастак, краязнаўца і этнограф. «Бацька польскай фатаграфіі». Яго творчасць – частка супольнай культурнай спадчыны Беларусі, Літвы і Польшчы. Пераважная большасць яго творчасці звязаная з Вільняй і Віленшчынай. У 1915 годзе выйшаў альбом у шасці тамах «Літва ў здымках Яна Булгака». Сярод больш чым 270 здымкаў ёсць Крэва, Вілейка.



**1948.** 176 тысяч чалавек загінулі ў выніку землятрусу ў Ашхабадзе ў Туркменістане. Адзін з самых разбуральных землятрусаў у гісторыі чалавецтва.

**7 КАСТРЫЧНІКА**

**1765.** Нарадзіўся **Міхал Клеафас Агінскі**, вялікалітоўскі магнат і кампазітар. Значную частку жыцця пражыў у Залессі паміж Маладзечнам і Смаргонню. Уладальнік палацавага ансамбля ў Ганусе, цяперашні Вілейскі раён.



**8 КАСТРЫЧНІКА**

**1909.** У Нясвіжы нарадзіўся **Пётр Ярашэвіч**, у 1970-1980 прэм'ер-міністр Польшчы.

**9 КАСТРЫЧНІКА**

**1920.** Дывізіі генерала Люцыяна Жалігоўскага занялі Вільню і Віленскі край.

**10 КАСТРЫЧНІКА**

**1939.** Паміж СССР і Літвой заключаны дагавор, па якім Вільня і частка Віленскай вобласці адышлі да Літвы.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Люблю працу з дзецьмі і цярпець не магу правяраць халадзільнікі

## Ураджэнка Вілейшчыны – аб працы педагога

ВІЛЕЙКА

**30 год Алена Мачэль адпрацавала настаўніцай у Вілейцы. А потым усё кінула, пераехала ў Мінск і пачала выкладаць родную мову і літаратуру ў сталічнай беларускамоўнай гімназіі.**



Алена Мачэль з вучнямі.

Фота забяспечанае Аленай МАЧЭЛЬ

Пра такія імклівыя змены ў жыцці і пра тое, чым сталічныя школьнікі адрозніваюцца ад вілейскіх, мы распыталі Алену Лявонцьеўну перад прафесійным настаўніцкім святам.

### Хацела стаць спявачкай, але...

Мая суразмоўца хацела стаць спявачкай. Бо ва ўсіх сваякоў па лініі маці прыгожыя звонкія галасы. Але ў роднай Сакалоўцы музычнай школы не было. Таму пасля 10 класаў выпускніца вырашыла паступаць у педагагічны інстытут у Мінск.

**– Іншых прафесій асабліва і не ведала, – прыгадвае яна. – А мовы ў мяне заўсёды ішлі лепш, чым дакладныя навукі. Ды і настаўнікаў тады вельмі паважалі.**

Вось і вырашылі з сяброўкай з маёй вёскі паступаць у педагагічны. Паступіла з першага разу. А пасля з жалем даведалася, што тады, у сярэдзіне 1980-х, у БДУ праводзілі эксперымент. Каб паступіць, было дастаткова здаць толькі два экзамены, а я ў педагагічны здавала чатыры.

Інтэрнат у той час на першым курсе не давалі. Студэнтка-першакурсніца жыла ў сваячкі. На другім курсе інтэрнат атрымала. Жыла ў адным пакоі побач з в'етнамцамі. Тыя крыху гаварылі па-руску, бо вучыліся на настаўніц рускай мовы.

– Запомнілася, як яны смажылі селядзец, гатавалі рыс без вады. А яшчэ ўсе шафы былі заваленыя шмоткамі, якія яны прадавалі.

Жыць было весела, але ў хуткім часе мая суразмоўца выйшла замуж і разам з мужам з'ехала на найманую кватэру.

### Была класнай «Зэ» класа

Першы настаўніцкі досвед у вілейскай школе №2 (цяпер гімназія «Логас») помніцца вялізнымі класамі:

**– У кожным класе было па 30-35 чалавек. І на адной паралелі было шмат класаў. Уявіце, я была класнай «Зэ» класа. А яшчэ былі і «К», і «Л». Працавалі ў дзве змены. А маладую настаўніцу вучні не заўсёды хацелі слухаць.**

Каб наведваць сем'і пасля працы, каапераваліся ўдзвюх з сяброўкай, таксама маладой настаўніцай. Спачатку ішлі да яе вучняў, потым – да маіх, прыгадвае Алена Лявонцьеўна.

Запомнілася таксама, як віншавалі на першым Дні настаўніка ў школе. Маладых педагогаў выклікалі на сцэну, праводзілі з імі віктарыны, конкурсы. А потым падарылі вялізны аловак з паперы.

### Не люблю паперы і недарэчныя даручэнні

На маё пытанне, што падабаецца, а што не падабаецца ў настаўніцкай працы, суразмоўца адказала проста:

– Падабаецца праца з дзецьмі: урокі, экскурсіі, вандроўкі. Не падабаюцца шматлікія конкурсы па ўсім і безліч папер. Не люблю і недарэчныя даручэнні: правяраць электрычнасць, дамафоны, халадзільнікі.

Яшчэ Алена Лявонцьеўна любіць займацца з вучнямі даследчай працай. Калі настаўнічала ў Вілейцы, пры Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі ўдзельнічала ў стварэнні гуртка «Крок у навуку». Ладзілі семінары і лекцыі для дзяцей і настаўнікаў.

Са сваімі вучнямі Алена Лявонцьеўна не раз паспяхова выступала на навуковых канферэнцыях. Працы высока ацэньвалі ў Акадэміі навук.

### Вілейскія школьнікі больш самастойныя і адказныя

Пераехаць у Мінск пасля 30 гадоў працы ў школе ў Вілейцы настаўніца мусіла па сямейных абставінах. Сёння яна не шкадуе, што так атрымалася: і яна, і муж маюць працу, у сям'і ўсё добра.

– Цяпер працую ў 23-й беларускамоўнай гімназіі ў Мінску. Тут вучацца дзеці і ўнукі беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, палітыкаў. Адчуваецца, што яны добра ведаюць беларускую мову. Калі на ўроках у «Логасе» я часта пыталася ў вучняў, якія словы вам незразумелыя, то тут такіх пытанняў не задаю.

Але, па назіраннях настаўніцы, сталічныя вучні менш самастойныя і менш адказныя. Нават у дзявятым класе забываюцца перадаць інфармацыю бацькам. Таму без суполкі ў вайберы тут ніяк: трэба і вучням сказаць, і бацькам прадубляваць.

### Пра настаўніцкі прэстыж

Аднак не траціць сувязяў Алена Лявонцьеўна і са сваімі вілейскімі вучнямі:

– Сёлета дзеці, у якіх я была класным кіраўніком, скончылі 11 класаў. Я ад іх з'ехала ў дзявятым, «кінула іх», як яны тады сказалі.

Але на выпускны вучні запрасілі Алену Лявонцьеўну і зрабілі ёй сюрпрыз:

– У класе быў вельмі таленавіты хлопчык. Ён сам піша музыку, спявае, іграе на гітары. Але яго немагчыма было выцягнуць на сцэну. І вось на выпускным апошнім нумарам аднакласнікі ўсё ж змаглі гэта зрабіць. Калі ён спяваў, я плакала.

Спадарыня Алена прызнаецца, што не можа вызначыць, дзе ёй было лепш:

**– Педагога з мяне зрабіў «Логас». А ў 23-й гімназіі я ўжо настаўніца з досведам, ад якой шмат чакаюць.**

Педагог заўважае, што прэстыж настаўніка зніжаецца. Асабліва ў мінскіх школах. Выхаваная ў вясковай сям'і, Алена Лявонцьеўна прывыкла да таго, што настаўнікаў паважалі.

– Калі б я прыйшла са школы і сказала маме, што на мяне сварыўся настаўнік, яна б сказала «сама вінаватая», – прыгадвае Алена Лявонцьеўна сваё вясковае дзяцінства. – Цяпер жа ў бацькоў часта настаўнік вінаваты ва ўсім. І яны нават не імкнуцца разабрацца ў сітуацыі, пішуць скаргі і электронныя звароты. Маўляў, парушаюцца правы іх дзяцей. А правы настаўніка?

І ўсё ж пры ўсіх гэтых супярэчнасцях Алена Лявонцьеўна не збіраецца мяняць прафесію.

**– Неяк падумала пра гэта, калі ў Мінск пераязджала. А потым задала сабе пытанне: «А што я магу рабіць акрамя таго, як вучыць дзяцей?»**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Фота vk.com/tap_vialejka.

Шкляныя рэшткі, знойдзеныя на вакзале.




Фота vk.com/tap_vialejka.

На донцы бутэлькі бачны аб'ём – 1/20 і месца вырабу – Варшава.




Жэтон вайскоўца Першай сусветнай.



Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Частка зброі.

# Знайшлі жэтон Першай сусветнай і старыя бутэлькі

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта нам распавялі вілейскія краязнаўцы.**

На чыгуначным вакзале ў Вілейцы падчас рамонту знайшлі рэшткі старых бутэлек і сталовага посуду, а таксама жэтон вайскоўца Першай сусветнай вайны.

На донцах знойдзеных бутэлек добра праглядаецца надпіс «Варшава», а таксама лічбы 1/20. Па словах краязнаўцаў, лічбы кажуць пра тое, што ў бутэльку ўлазіла 1/20 вядра вадкасці.

Вікіпедыя паведамляе, што бутэлька з пазначэннем 1/20 на донцы выкарыстоўвалася для гарэлкі. У яе ўваходзіла пяць чарак, або 0,6 літра. Па інфармацыі краязнаўцаў, у такіх бутэльках таксама магло быць піва. Для вінных бутэлек быў іншы аб'ём – 1/16 вядра, шэсць чарак, або 0,77 літра.

Сярод шкляных рэчаў ёсць і рэшткі сталовага посуду. Краязнаўцы мяркуюць, што гэта супніца. Знайшлі ручку і яшчэ адзін шкляны кавалак белага колеру.

На большасці рэштак расколы старыя. Гэта дае падставы меркаваць, што шкло пабілася даўно, а не падчас рамонту. Магчыма, будаўнікі раскапалі яму для смецця, куды скідвалі шкло.

Таксама знайшлі частку нейкай зброі. Магчыма, нямецкага аўтамата або вінтоўкі, кажа краязнаўца **Дзяніс Канецкі**.

Добра захаваўся знойдзены жэтон часоў Першай сусветнай.

Як расказалі краязнаўцам у Вілейскім краязнаўчым музеі, згодна з пазначэннямі, жэтон належаў вайскоўцу 486 пешай Маскоўскай дружыны дзяржаўнага апалчэння, сфарміраванай у 1914 годзе. Дружына дыслакавалася ў Маскве і ўваходзіла ў сотую брыгаду дзяржаўнага апалчэння Маскоўскай ваеннай акругі.

### Што яшчэ знаходзілі падчас рамонту на вакзалах у Вілейцы

Нагадаем, што падчас рамонтаў на аўта– і чыгуначным вакзалах у Вілейцы ўжо не першы раз трапляюцца краязнаўчыя знаходкі.

У сярэдзіне верасня, калі капалі траншэі пад пракладку труб, на паўметровай глыбіні знайшлі рэшткі склепа. Сцены гэтага склепа былі зроблены з драўлянага бруса. Брус ужо добра згніў, але фрагменты засталіся цэлыя.

А яшчэ раней, зімой, краязнаўцаў парадавала знаходкамі гарышча вілейскага чыгуначнага вакзала. Тут знайшлі стогадовую дахоўку, чарнільніцу, старое адзенне і абутак, каску. Некаторыя рэчы перадалі ў музей.

Як распавялі тады карэспандэнту ў Вілейскім краязнаўчым музеі, да 1950-х гадоў на гарышчы чыгуначнага вакзала ў Вілейцы былі кватэры. Таму не дзіўна, што падчас рэканструкцыі будынка сярод смецця знайшлі старыя рэчы.

А ўвогуле, як паведамляюць у музеі, гісторыя чыгуначнага вакзала ў Вілейцы ідзе ад пачатку мінулага стагоддзя. Ад 1903 да 1907 года тут пачалі будаваць чыгунку. Прыкладна ў гэты час з'явілася станцыя.

Вядомы факт, што ў 1915 годзе на вілейскі чыгуначны вакзал прыязджаў цягнік імператара Мікалая Другога. У Вілейцы ён уручыў узнагароды вайскоўцам, якія добра праявілі сябе ў баях за Вілейку і Маладзечна. Таксама правёў агляд войск.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Дзённік мамы трэцякласніцы. У дзённіку дыяпазон – ад пяці да дзесяці

**За ўрокамі і перапынкамі незаўважна для Варвары і нават для мяне прайшоў першы месяц вучобы.**

Што новага адбылося ў школьным і асабістым жыцці трэцякласніцы за гэты час? Па-першае, цяпер Вара вучыцца ў другую змену і вельмі гэтым цешыцца. І зусім не таму, што любіць доўга спаць. Прачынаецца яна па-ранейшаму рана.

Вабіць, відаць, іншае. Хаця б адчуванне самастойнасці. Цяпер у Вары ёсць уласны ключ ад кватэры. І яна ўжо добра навучылася ім зачыняць дзверы. Часам мусіць выходзіць з дому ў школу сама.

Цяпер заняткі па дудцы і танцах да ўрокаў. Прыходзіцца пабегаць. Але такі рытм жыцця пакуль вытрымліваем.

Ужо месяц вывучаем англійскую мову. Пакуль у слоўнікавым запасе – лічбы, колеры, звароты ветлівасці, палова алфавіта, назвы некаторых жывёл.

Самастойна падпісваем сшыткі і дзённік. Часам з першага разу не атрымліваецца.

А ў дзённіку – самыя сапраўдныя адзнакі. Дыяпазон вялікі – ад пяці да дзесяці. Пачалі не важна. Відаць, расслабіліся трохі за летнія канікулы. Цяпер падцягнуліся.

Шмат радасці і здзіўлення прынесла васьмёрка за кантрольную работу па матэматыцы. Бо гэты прадмет чамусьці палохае Варвару больш за ўсё. І калі шчыра, то я нават ведаю, ад каго ў яе гэты страх. У мяне ж і сёння з лічбамі так сабе адносіны.

Два разы на тыдзень фізкультура праходзіць у басейне. Пачатковым класам спецыяльна стараюцца ставіць плаванне часцей, каб у пятым класе ўжо ўмелі добра плаваць.

У трэцім класе дзяўчынкам прапанававі запісацца ў секцыю жаночага футбола. Гэты спорт у школе развіваецца «на ўра». Некаторыя аднакласніцы пайшлі. Варвара ж пабаялася, што не пацягне. Хаця мы былі не супраць. Асабліва тата.

20 верасня Вара адзначыла ў класе сваё дзевяцігоддзе. Разам з лепшай сяброўкай Дашай, з якой маюць нарадзіны ў адзін дзень, частавалі аднакласнікаў цукеркамі. У падарунак атрымалі яркія імянныя кубачкі.

...А да канца чвэрці засталося крыху менш за месяц. Чакаем канікулаў. А яны сёлета доўгія, як ніколі, – дзесяць дзён.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Юліі ЯРАШОНАК.

Дажджлівая восень не засмучае нас з Варварай.



Фота intalent.pro.

Медыятар дапамагае дамовіцца абодвум бакам так, каб задаволеныя былі ўсе.

# Як вырашыць спрэчку без суда. Расказваем пра медыяцыю

**Калі ўзнікае сур'ёзная спрэчка, многія ідуць разбірацца ў суд. Праз суд многія вырашаюць праблемы з партнёрамі, калегамі, падначаленымі або начальнікамі, былымі мужамі і жонкамі.**

Суд вымотвае і псуе адносіны паміж бакамі. Але ёсць іншы спосаб вырашыць спрэчку – можна звярнуцца да медыятара.

### Хто такі медыятар

Медыятар, або пасярэднік – той самы чалавек, які дапамагае вырашыць спрэчкі. Гэты чалавек разбіраецца ў канфлікце як з'яве і не высвятляе, хто мае рацыю, а хто вінаваты. Ён задае пытанні бакам канфлікту і дапамагае задаць іх адзін аднаму.

У выніку кожны разумее, чаму іншы чалавек пайшоў менавіта на такі ўчынак. Дзякуючы такому падыходу вы атрымліваеце магчымасць узяць канфлікт у свае рукі, каб вырашыць яго менавіта так, як трэба вам.

### Якія праблемы можа вырашаць медыятар

Большасць канфліктаў, якія ўзнікаюць, можа дапамагчы вырашыць медыятар.

Вось прыклады выпадкаў, з якімі звяртаюцца да медыятара. У бізнесе: вы не можаце дамовіцца з арэндадаўцам або арандатарам пра рамонт, работнік не згодны з выплатамі пасля звальнення, вы не можаце аплаціць за паслугу ў тэрмін або трэба змяніць дагавор.

Гэта працуе ў любой сітуацыі, калі вы баіцеся, што агалашэнне спрэчкі або судовага працэса можа кепска паўплываць на ўзаемаадносіны з іншымі кліентамі, партнёрамі або пастаўшчыкамі.

Падчас сямейных канфліктаў могуць узнікнуць спрэчкі наконт агульнага бізнесу з мужам або жонкай, у бацькоў з дзецьмі або паміж іншымі сваякамі. У такіх сітуацыях важна не толькі захаваць бізнес, але і адносіны ў сям'і.

### Чаму лепш звярнуцца да медыятара

На гэта ёсць шэсць важных прычын.

**1). Грошы**

Іск аб падзеле маёмасці вымагае аплаціць 5% ад таго, што ў гэтай спрэчцы вы дзеліце. Гэта 5% ад машыны, кватэры і іншых рэчаў. Атрымліваецца сур'ёзная сума.

За медыяцыю вы плаціце пароўну за кожную з сесій. Цана на паслугу дагаворная. Колькі неабходна сесій, вырашаеце вы.

**2). Час**

Суд доўжыцца больш за два месяцы, а медыятыўная сесія – дзве-дзве з паловай гадзіны, за якія вы ўжо можаце паспець пра ўсё дамовіцца

**3). Нервы**

Падчас суда вы шмат размаўляеце з адвакатамі, абгаворваеце горшыя варыянты, нервуецеся. На медыяцыю вы прыходзіце ў камфортны офіс і расказваеце пра сваю праблему і магчымыя варыянты вырашэння.

**4). Вынік**

З судовых пасяджэнняў адзін выходзіць пераможцам, другі – пераможаным.

У медыяцыі пераможцамі застаюцца абодва, таму што кожны атрымлівае, што хоча.

**5). Адносіны**

Цягам суда вы псуяце адносіны з партнёрам, сябрам, мужам або жонкай. Пасля медыяцыі вы захаваеце партнёрскія адносіны, і кожны атрымае тое, што важна яму.

**6). Зручнасць**

Вам не трэба складаць іскавую заяву і шукаць адваката. Вы можаце ўключыць усе пытанні і рашэнні ў пагадненне. Усё проста – пагадненне складаеце вы самі і самі вырашаеце пытанні, якія вас цікавяць.

### Калі можна звярнуцца

У любы час: падчас суда, да суда, незалежна ад суда.

Звяртайцеся, калі не можаце вырашыць самі пытанне. Асабліва калі спрэчку трэба вырашыць хутка.

### Як працуе медыяцыя

Нямногія ў Беларусі ведаюць пра медыяцыю – тут гэта пакуль маладая з'ява. Пра медыяцыю можа распавесці знаёмы юрыст, калі вы падзеліцеся намерам падаваць у суд.

Калі вы вырашылі паспрабаваць вырашыць канфлікт праз медыяцыю, знайсці спецыяліста можна праз рэестр на сайце Міністэрства юстыцыі. Або праз пашукавік з указаннем свайго горада.

### Як будзе ісці справа

Спачатку стэлефануйцеся з медыятарам і прызначце сустрэчу. Правядзіце першую сустрэчу асобна ад другога ўдзельніка.

Пасля гэтага будзе сустрэча з медыятарам і абодвума бакамі. Правядзіце столькі сустрэч, колькі спатрэбіцца. Заключыце пагадненне.

Вось і ўсё, што трэба, каб вырашыць канфлікт з дапамогай медыяцыі.

### Памятайце

Да медыятара звяртайцеся ў любы момант.

Любую спрэчку можна вырашыць мірна. Трэба проста быць гатовымі прымаць рашэнні і абмяркоўваць іх.

Важна памятаць, што гэта не суд і вы свабодныя настолькі, наколькі свабодны другі ўдзельнік. Абмяркоўваць можна любое пытанне.

Медыяцыя працуе, калі вы разумееце, што вы абодва роўныя. І даце другому боку столькі свабоды, колькі дазваляеце сабе.

**Ганна КАВАЛЕВІЧ,**
**медыятар, Маладзечна.**

# Нашы за мяжой. Як жыве ў Бельгіі ўраджэнец Вілейкі

**Віляйчук Зміцер Пасрэднік шэсць год таму з'ехаў з Беларусі. Цяпер ён з сям'ёй жыве ў Бельгіі. Спецыяльна для «РГ» Зміцер распавёў, чаму пакінуў радзіму і якія гасцінцы вязуць яму беларускія сябры.**



Злева направа: Зміцер Пасрэднік, яго жонка Валерыя, дзеці Ганна і Марыя ў Нідэрландах.

### Вілейскае дзяцінства, навуковае юнацтва і прага да падарожжаў

Для мяне вялікая пашана даць інтэрв'ю для чытачоў «Рэгіянальнай газеты», таму што маё дзяцінства прайшло ў Вілейцы, у мікрараёне Воўкаўшчына.

Пасля заканчэння гімназіі «Логас» я паступіў на біялагічны факультэт БДУ. Абараніў дыпломную і магістарскую працы на кафедры генетыкі і застаўся там працаваць лабарантам і малодшым навуковым супрацоўнікам.

З дзяцінства я марыў не толькі пра навуковую кар'еру, але і пра вандроўкі і падарожжы, захапляўся кнігамі пра падарожнікаў і экспедыцыі, па тэлебачанні глядзеў усё, што можна, пра іншыя краіны. З жаданнем вандраваць звязаны адзін з самых яркіх успамінаў дзяцінства. Выкладчыкам мастацкай культуры ў нас быў **Эдуард Уладзіміравіч Мацюшонак**. Ён з захапленнем распавядаў пра помнікі архітэктуры, карціны, скульптуры. І цяпер, калі маю магчымасць ездзіць па краінах, наведваць музеі, гэта ўражвае ўдвая.

З другога года студэнцтва аўтаспынам вандраваў па Беларусі. А калі старэйшыя сябры пачалі раз'язджацца па Еўропе і дзяліцца сваімі ўражаннямі пра жыццё за мяжой, зразумеў, што надышоў час і мне збіраць стартавы капітал і актыўна рыхтавацца да пераезду.

### Пераезд у Германію

У 2013 годзе я атрымаў пазіцыю навуковага супрацоўніка ў шпіталі Мюнстэра ў Германіі.

У мене быў год, каб падрыхтавацца да пераезду. Каб пераехаць, дастаткова ведаць англійскую мову. Але, вядома, у Германіі да паспяховага жыцця патрэбна было вывучыць нямецкую. Трэба дадаць, у Мюнстэры была суполка біёлагаў з БДУ, якіх я ведаў яшчэ па студэнцкім інтэрнаце. Яны вельмі дапамаглі мне.

### Мяняеш працу? Мяняй краіну!

У Германіі пражыў тры з паловай гады. У Мюнстэры ў мяне з'явілася сям'я, і калі кантракт скончыўся, мы пераехалі ў Бельгію. Тут, дарэчы, я працую навуковым супрацоўнікам у кампаніі Confo Therapeutics, якая месціцца ў Брусэлі. Кампанія займаецца распрацоўкай медыкаментаў.

Больш за ўсё ўразіла лёгкасць бюракратычнай сістэмы ў параўнанні з Германіяй. Ну і кухня: лічу, што ў Бельгіі сабралі ўсё самае лепшае з усяго свету.

Што тычыцца мовы, то ў Бельгіі цалкам дастаткова англійскай. Але пакрыху вывучаю французскую, бо сорамна жыць у краіне без ведання мясцовай мовы. Ды і трэба разумець сваіх дзяцей, бо яны нарадзіліся тут і французская для іх родная.

### Медыцына, адукацыя, жыллё

У Бельгіі абавязковая базавая медыцынская страхоўка, але можна набраць розных опцый, якія каштуюць танна, але пакрываюць усё. Да таго ж яны часта ідуць за кошт работы. Калі патрабуецца не тэрміновая дапамога – па ўсіх пытаннях ідзём да сямейнага доктара. Калі здарaецца нешта сур'ёзнае – самі едзем у шпіталь. «Хуткую дапамогу» выклікаюць толькі тады, калі ёсць пагроза жыццю. Нават калі ў цяжарнай жанчыны падыходзіць час нараджаць і яна плануе нараджаць у шпіталі, дабірацца ёй давядзецца самастойна.

> **У школе дзецям не дураць галовы цыклам развіцця імхоў ці інтэграламі. Школьная адукацыя – жыццёва арыентаваная.**

Ва ўніверсітэтах праграма распрацоўваецца самой навучальнай установай. Студэнты самастойна выбіраюць курсы ў залежнасці ад таго, які дыплом жадаюць атрымаць. Адукацыя вельмі якасная: Бельгія знаходзіцца ў топ-5 у Еўропе па лёгкасці ўладкавацца на працу з вышэйшай адукацыяй. Але шмат хто атрымлівае і сярэднюю адукацыю, бо спецыяліст у сваёй справе заўсёды добра зарабляе.

Чым далей жыллё ад горада, тым лепшым яно будзе і таннейшым. За грошы, якія дазволяць наняць хіба невялічкую кватэрку ў горадзе, у вёсцы можна жыць у вялікім доме з садам. Але ў гэтым выпадку не абысціся без машыны.

### Адметнасці

Мы жывём у Валонскім рэгіёне, у вёсцы Мон-Сэн-Гібер. У кіламетры ад нас ёсць ферма, дзе ў Напалеона быў арсенал для бітвы пад Ватэрлоа. Літаральна на суседняй вуліцы знаходзіцца вялікі маёнтак графаў Б'ербэ з ансамблем азёраў і паркамі. Калі графы згалелі, маёнтак выкупіла адна сям'я і валодае ім ужо каля 500 гадоў. А ў дзясятку кіламетраў ад нас – замак Сярэднявечча, адзін з тых, што найлепш захаваліся. Замак знаходзіцца ў маёмасці маркіза дэ Тразанье.

### Адзін дзень у Бельгіі

Нашы працоўныя дні праходзяць, мусіць, так, як і ў іншых сем'ях з дзецьмі. У нашых краях звычайная практыка, калі бацька працуе ў адным горадзе, маці – у другім, у трэцім дзеці ходзяць у школу ці садок, а жывуць усе ўвогуле ў чацвертым. Так і ў нас. Раніцай мне трэба адвезці жонку на станцыю ў іншы горад, адкуль яна цягнікам едзе на працу, потым вязу дзяцей у школу і садок. А пасля еду на сваю работу. Увечары збіраю ўсіх і мы вяртаемся дадому, дзе вячэраем і рыхтуемся да наступнага дня.

Па суботах і нядзелях мы займаемся хатнімі справамі, набываем ежу на наступны тыдзень і таксама едзем куды па Бельгіі ці – у летні час – на мора.

### «Кожны этап жыцця павінны быць лепшым за папярэдні»

Я жыў у Беларусі, Германіі, цяпер – у Бельгіі. Каб зразумець, чым адрозніваюцца людзі, можна параўнаць краіны, якія пабудаваныя гэтымі людзьмі. Таму што краіна – гэта, перш за ўсё, насельніцтва, якое ў ёй жыве.

Беларусь я не наведваю, але ў госці да мяне прыязджаюць бацькі, родныя, сябры. У Бельгію ў падарунак яны вязуць шакалад, піва, сыры.

> **Я ні аб чым не сумую, бо лічу, што кожны наступны этап у жыцці павінны быць лепшым за папярэдні.**

Калі гэта не атрымоўваецца, значыць, недзе я памыліўся і штосьці раблю не так. Але таксама трэба ўлічваць, што ўсё, што зараз маю і чаго дасягнуў, было б немагчыма без дапамогі маіх родных, сяброў і калег, за што ім бясконца ўдзячны.

**Падрыхтаваў Ігар ПАЛЫНСКІ.**

# У раённым дэрбі «Маладзечна» аказалася мацнейшым за «Андэрдог»

**Пакуль у вышэйшай лізе футбольнага чэмпіянату Беларусі ў гарачых баталіях вырашаюцца пытанні па размеркаванні месцаў на п'едэстале, другая ліга радуе гледача сваімі супрацьстаяннямі. Адно з іх – гульня паміж камандамі «Маладзечна» і «Андэрдог».**




Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Раённае дэрбі павінна было адказаць на пытанне: якая з камандаў з'яўляецца асноўным прэтэндэнтам на трэцяе месца? Паводле чутак, прахаднога, які дае права ў наступным сезоне выступаць у лізе рангам вышэй.

**«Маладзечна» не бывала там з 2004-га года, а вось у чысцінцаў уражанні больш свежыя – яны ўпершыню спрабавалі сябе ў першай лізе ў мінулым сезоне.**

Абедзве каманды прыстойна ўмацаваліся ў перыяд дазаявак, прыйшлі нават футбалісты, што яшчэ нядаўна выдатна дзейнічалі на самым высокім узроўні. Да прынцыповага матча маладзечанцы выдалі бліскучую серыю з дзевяці перамог і адной нічыёй, але ў «Андэрдога» заставаўся шанец увязацца ў сур'ёзную барацьбу з землякамі за трэці радок. Для гэтага трэба было перамагаць у вочнай сустрэчы.

З першых хвілін на полі разгарнулася сапраўдная барацьба. І градус бітвы не зніжаўся да фінальнага свістка.

**Як вынік – абедзве каманды напрацавалі на дзевяць жоўтых і адну чырвоную картку. Выдаленне зарабілі госці.**

Маладзечанец **Грыб**, які ў другім крузе выступае за «Андэрдог», тузануў за майку саперніка і атрымаў справядлівую жоўтую картку. Яна для гульца была ўжо другой у матчы. А праз некалькі хвілін да гэтага «мясцовы» **Чэхаў** на поўным ходзе ўляцеў у «прыезджага» **Кротава**. Выглядала вельмі груба і, здавалася, цягнула на чырвоную картку, але арбітр абмежаваўся жоўтай. Гэта было ў сярэдзіне другога тайма, і да таго часу лік на табло быў ужо 2:0 на карысць гаспадароў поля.

**Вырашальная перавага была здабытая ў сярэдзіне першага тайма. Спачатку Кнацько-Штэрк на 28 хвіліне адгукнуўся на падачу са штрафнога і галавой адправіў мяч за спіну Субачу. А праз тры хвіліны Корсак хвостка прабіў у далёкі кут непрыяцельскіх варот і падвоіў перавагу.**

Госці засумавалі, але не здаліся. Нават застаўшыся ў меншасці, яны раз за разам шукалі падыходы да варот **Антона Шунта**. **Халадзінскі**, **Мікіта Мятліцкі** і **Бялевіч**, які выйшаў замест траўмаванага Кротава, умела абвастралі гульню. Але да рэальных пагроз справа так і не дайшла. А вось «Маладзечна» мела шанец давесці лік да буйнога, але **Мікіта Дудо** загубіў перспектыўны момант. Гэта было ўжо ў канцоўцы сустрэчы, і адзін з лідараў каманды **Вяргеенкі** да таго часу ўжо добра «наеўся», выканаўшы вялікі аб'ём працы на цяжкім з-за непагадзі полі.

Моцны дождж, быццам па камандзе, спыніўся, як толькі прагучаў фінальны свісток. Гэта ўзрадавала балельшчыкаў, што наведалі стадыён, не менш за вынік.

**Была свая, дадатковая радасць і яшчэ ў адной групы, якая арганізавана назірала за гульнёй, – салдат. Іх дэмбель стаў бліжэй на 90 хвілін.**

Пасля гульні галоўныя трэнеры абедзвюх камандаў сваімі ўражаннямі падзяліліся з карэспандэнтам.

**ФК «Маладзечна»:** Шунта – Лоўгач, Анцыпаў, Татарын, Чэхаў, Мяць, Новік, Емяльянаў (Чабрыцкі, 76), Дудо, Корсак (Тальkоўскі, 90), Кнацько-Штэрк (Крот, 90).

**ФК «Андэрдог»:** Субач – Філіпенка, Грыб, Дрозд, Гаеў, Бяляўскі, Марозаў (Гайдукевіч, 33), Фядотаў (А.Кашэўскі, 68), М.Мятліцкі (Чыжэўскі, 81), Кротаў (Бялевіч, 61), Халадзінскі.

**Галы: 1:0 Кнацько-Штэрк, 28-я хвіліна. 2:0 Корсак, 31-я хвіліна.**

Трэнер ФК «Маладзечна» **Аляксей Вяргеенка**:

– Галоўнае ўражанне – тое, што мы выканалі план на гульню і зарабілі тры ачкі, нягледзячы на некаторыя недахопы.

Я лічу, што якасць гульні супала з вынікам. Толькі ў канцоўцы матча трэба было цалкам вырашыць лёс сустрэчы – для таго былі добрыя моманты.

**– Гульня, па сутнасці, ішла за трэці радок. Ці маеце вы дакладную інфармацыю наконт таго, колькі камандаў выйдзе ў першую лігу? Дзве ці тры?**

**– Гэта не да мяне пытанні. Іх трэба задаваць федэрацыі футбола. Наша задача – выходзіць на поле і гуляць, што хлопцы і робяць.**

Футбаліст ФК «Андэрдог» **Дзяніс Мятліцкі:**

– Гэта было дэрбі, і, зразумела, дадаткова матываваць гульцоў не было неабходнасці. Разумелі, што ў складзе маладзечанцаў добрыя выканаўцы ў атацы.

Але не атрымалася не даць ім забіць. Сёння мы былі слабейшыя – не выканалі ўстаноўку. Па выдаленні Грыба пытанняў няма – другая жоўтая.

А вось у эпізодзе з Кротавым можна было прыняць больш жорсткае рашэнне. Нашаму гульцу ў тым эпізодзе нанеслі сур'ёзную траўму.

**– У перыяд дазаявак каманда ўзмацнілася?**

**– Так, цяпер 10 новых чалавек выйшлі на поле, калі параўноўваць з першым кругам.**

**– Наколькі задаволеныя іх дзеяннямі?**

– Сёння незадаволены, а калі браць увогуле... Мы чакалі большага. Большага ад каманды. Няма прэтэнзій да тых хлопцаў, што прыйшлі ў каманду па ходзе сезона. Яны вышэй па ўзроўні і неабходныя патрабаванні выконваюць. На жаль, знізілі патрабавальнасць да сябе тыя хлопцы, што засталіся ў камандзе. І цяпер яны не ўзмацняюць гульню, калі выходзяць на замены. І сённяшні матч быў паказальны ў гэтым плане.

**Сяргей УЛАДЫКА.**

У першую лігу пераходзяць дзве каманды з другой лігі.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Нямецкім салдатам у час Другой сусветнай вайны замест кавы давалі абсмажаныя карані гэтай расліны. Калі іх заварыць, атрымліваецца напой, падобны да кавы.
3. Упершыню лічбавы варыянт гэтага аксесуара людзі ўбачылі ў фантастычнай стужцы «Касмічная адысея 2001». Кампанія, што зрабіла мадэль для здымак, пасля запусціла іх у продаж.
4. Свяцільня, звычайна ў выглядзе палкі з наматаным на канцы прасмоленым пакуллем.
6. Прыватнае сельскагаспадарчае прадпрыемства, заснаванае на ўласнай або арандаванай зямлі.
9. Атмасфера, якая бачная з зямлі – прастора ў форме купала, скляпення.
11. Дзікая ружа.
13. Зацукраваны плод, зацукраваная скурка плода.
14. Адзін з асноўных раздзелаў навукі аб суднаваджэнні, які вывучае метады прагназавання руху, вызначэння месца знаходжання карабля.
16. Учэпісты.
17. Які атрымліваецца ад змешвання чырвонай фарбы з белай.
20. Адсутнасць быцця, існавання, жыцця.
21. Жэтон, планка, ярлык і падобнае з адбіткам або малюнкам лічбы.
22. Беларуская страва з мукі і вады, якая стала героем аднаго з апавяданняў Ядвігіна Ш.
23. У сярэднім гэта з'ява прыроды важыць каля дзесяці тон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Краіна, дзе найбольш спажываюць кукурузы ў свеце.
5. Мора, якое пачало высыхаць у другой палове 20 стагоддзя.
6. Састаўная частка ўзброеных сіл дзяржавы, прызначаная для вядзення ваенных дзеянняў на водных прасторах.
7. Машына, якаяператварае які-небудзь від энергіі ў механічную энергію.
8. Мінеральнае парашкападобнае рэчыва, здольнае ўтвараць з вадой аднародную масу, якая з цягам часу ператвараецца ў каменепадобнае цела; ужываецца ў вытворчасці бетону і будаўнічых раствораў.
10. Зялёныя водарасці, якія плаваюць густой масай у стаячай і мала праточнай вадзе.
12. Прыстасаванне для ахаладжэння вады або масла, паветра ў маторах аўтамабіляў, трактароў, самалётаў.
13. Высокая тэмпература.
15. Афрыканская краіна, у якой цячэ рака Аранжавая.
18. Струмень вады або вадкасці, які з сілай выкідваецца ўгору пад высокім ціскам.
19. Свавольства, раздуранасць, адсутнасць дысцыпліны.
21. Атрымаць, засвоіць.
24. Лінія (існуючая ці ўяўная), якая раздзяляе, рубеж.

## Адказы на крыжаванку з №39

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Мяжа. 4. Морква. 6. Млосць. 7. Вышыня. 8. Бамбук. 10. Вадзянік. 11. Чакае. 12. Лянота. 14. Люстра. 16. Ровар. 18. Лысы. 19. Рэтуш. 21. Гедымін. 22. Разбой. 23. Вячэра.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Рупар. 3. Мястэчка. 4. Мука. 5. Вадаспад. 7. Вугаль. 9. Рынак. 12. Лухта. 13. Вянок. 14. Лозунг. 15. Псіхалогія. 17. Афрыка. 19. Рэферы. 20. Выпуск.



## ГАРАСКОП на 4-10 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** Гэтыя дні будуць для вас проста неверагодныя. У вас столькі ідэй, і многія з іх будуць увасабляцца адна за адной. Што б вы ні задумалі, прыкладзіце крыху намаганняў – і любая вяршыня вам скарыцца.

**ЦЯЛЕЦ.** Будзьце акуратныя з анлайн-перапіскамі. Часам інтанацыя вырашае ўсё. На гэтыя граблі траплялiся многія. Каб такое непаразуменне не напаткала вас, аддайце ў гэты перыяд перавагу размовам ужывую.

**БЛІЗНЯТЫ.** У гэты перыяд вы будзеце асабліва адчувальныя. Варта даверыцца свайму сэрцу. Яно дакладна вас не падманвае. Няхай вашы рашэнні будуць прадыктаваныя ўласнымі жаданнямі. Гэта, несумненна, будзе на вашу карысць.

**РАК.** Будзьце пільныя з абяцаннямі. Часам лепш абяцаць менш, а рабіць больш. Гэта прыемна ўразіць і вас, і вашых блізкіх. Адчуваць сябе стомленым – цалкам нармальна. У такія моманты важна дазволіць сабе адпачынак. Калі ж бясконца сябе загружаць, нічога добрага не атрымаецца.

**ЛЕЎ.** Вам абавязкова патрэбныя пазітыўныя эмоцыі. Гэта можа быць як сустрэча з сябрамі, так і паездка на прыроду. Падумайце, чаго вам даўно хацелася, і абавязкова гэта зрабіце.

**ДЗЕВА.** Вам давядзецца пастаяць за сябе. Вы з гэтым выдатна справіцеся і пакажаце крыўдзіцелю, што так сябе паводзіць з вамі нельга. Таму што калі вас разлаваць, то суняць ужо вельмі няпроста.

**ШАЛІ.** Калі вы ў нечым няўпэўненыя, лепш пакуль адкласці важныя рашэнні і справы. Збярыце больш інфармацыі і звестак, каб мець поўную карціну і ўбачыць сітуацыю аб'ектыўна.

**СКАРПІЁН.** У вас у галаве ўжо новыя праекты і справы. Але перш чым узяцца за іх, лепш закрыць і здаць тыя справы, якімі займаецеся цяпер. Але і пасля гэтага не спяшайцеся акунацца з галавой у новыя задачы. Дайце сабе дзень-два на цішыню і адпачынак.

**СТРАЛЕЦ.** Вам захочацца ўсяго і адразу. Але атрымаць такое не толькі складана, але і нецікава. Нашмат больш задавальнення вы атрымаеце, калі будзеце дасягаць патрэбнага паступова. Не спяшайцеся, і тады ўсё будзе.

**КАЗЯРОГ.** Гэтыя дні вы будзеце купацца і любові і захапленні. Толькі паглядзіце, колькі вакол вас шчырых сяброў і знаёмых, якія паважаюць вас і любяць. Адчуйце гэта і зразумейце – усю гэту любоў вы абсалютна заслужылі.

**ВАДАЛЕЙ.** Дайце сваім пачуццям і эмоцыям поўную свабоду. Няхай нічога вас не стрымлівае. У рэшце рэшт, вы можаце сабе дазволіць быць такімі, якія ёсць.

**РЫБЫ.** Дзейнічайце! Цяпер у вас такі перыяд, калі размаўляць няма калі, трэба рабіць. Даверцеся зоркам, і ў вас дакладна ўсё атрымаецца.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 8 | | | | | 4 | 2 | |
| | 6 | | 7 | | | | | |
| 4 | | | | | | 8 | 5 | 7 |
| | 2 | 8 | | 4 | 1 | | | |
| | | | | 2 | | 6 | | 1 |
| 3 | 1 | | 5 | | | 9 | | |
| 2 | | | | | | 7 | 9 | 5 |
| | | | 4 | 5 | | | | 8 |
| | | | 6 | | | 3 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



## Актывісты ў Маладзечне ладзяць восеньскі фестываль «Яблычны пірог»

Актыўныя жыхары двара па вуліцы Скарыны, 1 на чале з **Ірынай Тархан** рыхтуюць фестываль.

Далучыцца можа любы ахвотны. Пачатак а 15 гадзіне 13 кастрычніка.

На святе будуць гульні, танцы, песні. Удзельнікі разам накрыюць стол, дзе будзе чай, шарлотка і штрудзель.

Пройдзе кірмаш смакаты. Кожны можа прынесці свой ураджай, каб пачаставаць суседзяў і пачаставацца самому.

**Аддзел інфармацыі.**

# 5 кастрычніка запрашаюць у Любкі

ВІЛЕЙКА

**5 кастрычніка ў 18:00 Віталь Рыжкоў завітае ў паэтычную пуню ў Любках, каб пачытаць свае вершы.**




А пасля будуць танцы.

Умовы: рэтра-стыль.

– Пераглядзі шафу сваіх дзядоў і бабуль. Калі не маеш такой – прыязджай, падбяром нешта і для цябе, – кажуць арганізатары.

На імпрэзе будуць музыкі – **Наста Шпілеўская** і капэла «Калісьнія»

Будуць танцаваць у садзе на танцпляцоўцы.

Пачатак у 18:00.

Іншыя падрабязнасці ў гугл-форме, якую абавязкова трэба запоўніць. На спасылку заходзьце праз QR-код.



**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як Радашкавічы страцілі цікавы будынак, але займелі шанец вярнуць з небыцця замак? Дзе размяшчаўся замак, як выглядаў? Гістарычны артыкул Уладзіміра Садоўскага, Наталлі Волкавай і Зміцера Брыштэна чытайце ў наступным нумары.**

## 5 кастрычніка, субота

**Вецер:** заходні, 1 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -2,1°С у 1959 годзе
Максімальная тэмпература +23,6°С у 1966 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 31,5 мм у 1963 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-пляцяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якім чынам вы будзеце праходзіць перапіс насельніцтва?



**Валянціна Тарасава, санітарка, Маладзечна:**
– Будзем вырашаць з мужам. Раней хадзілі ў стацыянарны пункт, а сёлета не ведаем. Можа, пойдзем таксама туды, а можа, пройдзем праз інтэрнэт. Перапісчыкаў не чакаю, таму што наўрад ці буду ў гэтыя часы дома.



**Вольга Каханоўская, інспектар па кадрах, Вілейка:**
– Выбіраю інтэрнэт-перапіс, таму што так прасцей.



**Таццяна Тамашэўская, інжынер-праграміст, Смаргонь:**
– Планую ў інтэрнэце. Так мне будзе прайсці перапіс прасцей за ўсё.



**Аксана Сыракваш, настаўніца, Маладзечна:**
– Ці ў інтэрнэце, ці з перапісчыкам. Я яшчэ не вырашыла.



**Дзяніс Анасовіч, механік, Вілейка:**
– Буду праходзіць перапіс на сваёй працы на стацыянарным пункце.



**Ганна Паходня, рамеснік, Вілейка:**
– Хутчэй за ўсё, у інтэрнэце. Так прасцей. І я магу гэта зрабіць у зручны для мяне час.



**Дзмітры Стрэж, юрыст, Вілейка:**
– Хутчэй за ўсё, прайду ў інтэрнэце, таму што можна адказаць на пытанні перапісу ў любы час, калі самому больш зручна.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1275) 4.10.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1601. Падпісана ў друк у 9.00 3.10.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.